ПРАЛЕТАРЫІ ЎСІХ КРАІН, ЯДНАЙЦЕСЯ!

# Літаратура і мастацтва

№ 18 (2597)
ПЯТНІЦА 5 мая 1972 г.
Выдаецца з 1932 г.

ОРГАН МІНІСТЭРСТВА КУЛЬТУРЫ І ПРАЎЛЕННЯ САЮЗА ПІСЬМЕННІКАЎ БССР

ВЫХОДЗІЦЬ РАЗ У ТЫДЗЕНЬ НА ШАСНАЦЦАЦІ СТАРОНКАХ

Цана 8 кап.

## ПОДЗВІГ НАРОДА У ВЯЛІКУЮ АЙЧЫННУЮ ВАЙНУ — НЕВЫЧЭРПНАЯ КРЫНІЦА ТВОРЧАГА НАТХНЕННЯ





**Колькі зім, колькі летаў прайшло, прашумела з тае пары, як грымнулі апошнія залпы Вялікай Айчыннай — залпы святочнага салюта Перамогі. За гэтыя гады ўвайшлі ў сілу дрэвы, пасаджаныя на вогнішчах былымі франтавікамі, вырасла новае пакаленне, якое ні разу не чула, як вые пікіроўшчык, як цяжка ўздыхае дом перад тым, як абрынуцца на зямлю гарой друзу, як тонка дзынькае шальная куля, як ціха робіцца ў хаце, калі паштальён прыносіць самаробны канверт «трохкутнік», надпісаны незнаёмай рукой.**

**Пакаленне людзей, якое не ведала вайны!..**

**Радуючыся міру, будуючы светлае жыццё, нельга забывацца на ўрокі мінулага. Нельга забывацца, што гвалт і забойствы адбываюцца тады, калі бесклапотнае чалавецтва пад авечай шкурай, якую нацягвае на сябе фашызм, не заўважае яго воўчай сутнасці.**

**Светлая памяць пра тых, хто загінуў, пра вялікі подзвіг савецкага народа жыве ў сэрцы кожнага сумленнага чалавека.**

**Ёй прысвячаюць свае лепшыя творы мастакі і паэты, кампазітары і драматургі, скульптары і кінематографісты.**

На нашых здымках — кадры з карцін, прысвечаных падзеям Айчыннай вайны, якія здымае зараз «Беларусьфільм»: «Ушацкая аперацыя» (аб'яднанне «Летапіс»), «Руіны страляюць» («Тэлефільм»), «Капітан Ян» (сумесная вытворчасць Беларускай і Славацкай студый — інтэрв'ю з дырэктарам фільма Вільямам Чанні чытайце на 15-й старонцы).





1-га Мая рэспубліка чула і іх галасы — Ніны Саламахінай і Станіслава Гацілы... Фота Ул. Крука.

*7 мая — Дзень радыё*

# РЭПАРТАЖ АБ РЭПАРТАЖЫ

«Я —Вулкан-1! Я—Вулкан-1! Ало! Як чуеце? Прыём».

Юра Рабіч, у навушніках, з мікрафонам у руках размясціўся ля невялікага перадатчыка, настойліва паўтарае:

«Ало! Ало! Вулкан! Вулкан! Чуеце мяне добра? Лічу: раз, два, тры, чатыры... дзевяць, дзесяць. Як чуеце? Прыём».

Так пачыналася святочная раніца 1-га Мая для інжынера Беларускага рэспубліканскага радыё Рабіча. Павінна адбыцца адказная і складаная перадача: рэпартаж з Цэнтральнай плошчы сталіцы Беларусі Мінска, прысвечаны Дню міжнароднай салідарнасці працоўных. Праз некалькі гадзін пачнецца ўрачысты мітынг і дэманстрацыя прадстаўнікоў працоўных горада, і трэба, каб уся апаратура: прыёмнікі, перадатчыкі, мікрафоны — працавалі дакладна, спраўна. Кіруе гэтай адказнай работай старшы інжынер Яўген Тураў.

На скверы Янкі Купалы за трыбунамі знаходзіцца перасоўны трансляцыйны пункт — машына з радыёапаратурай. Шафёр-тэхнік Іосіф Капуста і гукарэжысёр Барыс Кавалеўскі забяспечваюць работу мікрафонаў, устаноўленых на ўрадавай і гасцявых трыбунах.

Але асноўны трансляцыйны пункт для правядзення святочнай перадачы размясціўся ў адной з кватэр на пятым паверсе дома на рагу Ленінскага праспекта і вуліцы Энгельса.

Вокны і вялікі, на ўвесь вугал дома, балкон у нашай незвычайнай студыі выходзяць на Цэнтральную плошчу. Як на далоні перад намі ўрадавая трыбуна і трыбуны для ганаровых гасцей сталіцы, зводны духавы аркестр Чырванасцяжнай Беларускай ваеннай акругі.

Ля акна імправізаванай студыі ўстаноўлены мікрафоны так, каб журналістам і дыктарам, якія вядуць рэпартаж, быў бачны ўвесь цырыманіял дэманстрацыі. Другі пакой займае радыёапаратура: тут устаноўлены пульт кіравання, за якім варожыць гукарэжысёр перадачы Анатоль Юзэфовіч — ён перасоўвае мікшэры па панелі пульта кіравання, правярае сілу і чысціню гуку ўсіх мікрафонаў, работу магнітафонаў, якімі загадвае гукааператар Таццяна Абадоўская. У гэтым пакоі стаіць і кантрольны тэлевізар.

Трэба ўзяць пробу дыктарскіх галасоў. Дыктары папарна падыходзяць да мікрафонаў, чытаюць для пробы першыя фразы і ўжо, як гэта ні дзіўна, хвалююцца, хоць разумеюць, што пакуль яшчэ не эфір, што гэта толькі падрыхтоўка да перадачы...

Але больш за ўсіх турбуюцца, хвалююцца, напружана дапрацоўваюць матэрыялы рэпартажу журналісты рэдакцыі «Апошніх паведамленняў», тыя, хто ў канцы рэпартажу сціпла аб'явяць аб сабе: «У перадачы прымаў удзел калектыў журналістаў радыё».

Адным з першых прыйшоў сёння на работу (так, так — на работу, бо ёсць людзі многіх прафесій, для якіх святочныя дні напоўнены вялікім працоўным напружаннем) галоўны рэдактар рэдакцыі апошніх паведамленняў Міхаіл Валатковіч.

За сталом ажыўленая гутарка — гэта аўтары рэпартажу Георгій Мар'ясаў, Ніна Саламахіна, Станіслаў Гаціла, Юрый Машкоў яшчэ раз праглядаюць сцэнарый.

У студыі хваляванне перад пачаткам рэпартажу дасягнула мяжы. Нехта нервова курыць, снуюць карэспандэнты, арганізатары і рэжысёры перадачы. Як гэта не падобна на нашы ціхія, за двума тоўстымі дзвярыма студыі, дзе гукі крокаў змякчае дыван на падлозе, дзве настольныя лямпы мякка асвятляюць тэксты дыктараў, прывычна свецяцца квадрацікі лямпачак на панелі пульта пад мікрафонам з указальнікамі: «мікрафон уключан», «даць плёнку» або «ўсё гатова»...

...Дыктары «спрабуюць галасы», апошні раз заглядае гукарэжысёр і напамінае дыктарам: пасля ўключэння мікрафона патрэбна невялікая паўза.

І вось усё гатова.

Пад мікрафонам, на дыктарскім пульце запальваецца зялёная лямпачка: эфір дае «зялёную вуліцу» святочнай перадачы.

Празрыста, лёгка і ўрачыста гучаць прывычныя, такія дарагія сэрцу гукі пазыўных Беларускай радыёстанцыі: «Радзіма мая дарагая...»

Перад мікрафонам — заслужаныя артысты БССР, дыктары Беларускага радыё Ілья Курган і Лілія Стасевіч. Мала не 50 разоў вялі яны рэпартажы ў дні ўрачыстасцей і святаў. І сёння іх галасы гучаць хвалююча, светла, святочна: «Увага, гаворыць Мінск! Гаворыць сталіца тройчы ардэнаноснай Савецкай Беларусі! Пачынаем перадачу, прысвечаную Дню міжнароднай салідарнасці працоўных — 1 Мая. Са святам вас, дарагія таварышы!»

Быццам на крылах лунаюць у эфіры сардэчныя словы Заклікаў ЦК КПСС: «Няхай жыве Камуністычная партыя Савецкага Саюза — баявы авангард рабочага класа і ўсіх працоўных, правадыр і арганізатар савецкага народа ў барацьбе за камунізм!», «Няхай жыве вялікае непарушнае адзінства партыі і народа!»

У рэпартажы прымаюць удзел дыктары Мікалай Чырык і Галіна Сядзельнікава, Эдуард Данчанка і Вера Шыбека.

Сёння хочацца асабліва шчыра і дакладна данесці да слухачоў сэнс, пачуццё свята. Трэба перамагчы хваляванне, трэба трымацца ля мікрафона ўпэўнена. Майстэрства дыктарскае ў тым, каб хваляванне ад пачуцця адказнасці, незвычайнасці рабочай абстаноўкі перарасло ў творчае хваляванне.

Галасы гучаць святочна, узнёсла, бадзёра, урачыста. І нездарма: з акна льюцца святочныя маршы, перад вачыма палошчуцца сцягі. Для дыктара гэта амаль адзіная перадача, дзе ты ў гушчыні падзей, дзе ты адчуваеш усёй сваёй істотай колер, гук, водар свята, дзе ты — трыбун, агітатар, каментатар, удзельнік усяго таго, што адбываецца вакол.

Менавіта ў такой перадачы, як трансляцыя ўсенароднага свята з плошчы сталіцы, дыктары як ніколі адчуваюць сябе чытальнікамі-публіцыстамі.

Мітынг працоўных адкрывае кандыдат у члены Палітбюро ЦК КПСС, першы сакратар ЦК Кампартыі Беларусі Пётр Міронавіч Машэраў. Ён звяртаецца да працоўных сталіцы рэспублікі, да ўсіх працоўных Беларусі з цёплымі словамі святочнага віншавання.

На плошчы — фізкультурнікі, праслаўленыя спартсмены. Сотні сцягоў: пунсовых, блакітных, зялёных.

Складанасць перадачы ў тым, што яна носіць імправізаваны характар. На балконе з вялікім палявым біноклем у руках назірае за рухам калон журналіст Ніна Саламахіна. Яна як дазорны. Трэба беспамылкова вызначыць, калона якога прадпрыемства набліжаецца да трыбун: аб іх пойдзе зараз размова. Тут жа на балконе і рэжысёр перадачы, журналіст Станіслаў Гаціла. Ён паведамляе на трансляцыйны пункт, аб чым і пра што мы павядзём зараз расказ.

Я ўжо не кажу пра тое, як складана і адказна падрыхтаваць і даць дыктарам для чытання патрэбны матэрыял, даць слова выступаючым паэтам, рабочым, гасцям рэпартажу, знайсці момант, калі павінны прагучаць урыўкі рэпартажу з Масквы і прывітанні з іншых гарадоў... Але трэба бачыць, як Георгій Мар'ясаў стаіць за спіной дыктара і разам з ім (гэта не будзе перабольшваннем) «чытае» бязгучна, «сам сабе», «знутры», увесь рэпартаж ад першага да апошняга слова. А як радаваўся Мар'ясаў, калі ў чытанні Кургана знайшоў асабліва ўдалую, лагічна адзіна магчымую інтанацыю — так можа ацаніць работу дыктара толькі чалавек, які тонка і правільна

## У Камітэце па Міжнародных Ленінскіх прэміях «За ўмацаванне міру паміж народамі»

21 красавіка г. г. пад старшынствам акадэміка Скобельцына Д. В. адбылося пасяджэнне Камітэта па Міжнародных Ленінскіх прэміях «За ўмацаванне міру паміж народамі».

Камітэт разгледзеў паступіўшыя прапановы аб прысуджэнні Міжнародных Ленінскіх прэмій за 1970—1971 гг. і прыняў пастанову па гэтаму пытанню.

Сёння публікуецца пастанова Камітэта аб прысуджэнні Міжнародных Ленінскіх прэмій.

*Пастанова Камітэта па Міжнародных Ленінскіх прэміях «За ўмацаванне міру паміж народамі»*

## АБ ПРЫСУДЖЭННІ МІЖНАРОДНЫХ ЛЕНІНСКІХ ПРЭМІЙ «ЗА ЎМАЦАВАННЕ МІРУ ПАМІЖ НАРОДАМІ» ЗА 1970—1971 ГАДЫ

За выдатныя заслугі ў барацьбе за захаванне і ўмацаванне міру прысудзіць Міжнародныя Ленінскія прэміі «За ўмацаванне міру паміж народамі»:

Э. Х. С. **Бурапу** — вучонаму, прэзідэнту Сусветнай федэрацыі навуковых работнікаў (Англія).

Рэната **Гутуза** — мастаку, грамадскаму дзеячу (Італія).

Цоле **Драгойчавай** — грамадскай і палітычнай дзяячцы (Народная Рэспубліка Балгарыя).

Камалю **Джумблату** — грамадскаму і палітычнаму дзеячу (Ліван).

Эрнсту **Бушу** — дзеячу мастацтваў (Германская Дэмакратычная Рэспубліка).

Альфрэда **Варэла** — пісьменніку, грамадскаму дзеячу (Аргенціна).

Масква, 21 красавіка 1972 года.

Віктар ГАРДЗЕЙ

## ЗАПАВЕТ

«Бывай, Радзіма, не здаюся!» —
Застаўся надпіс на сцяне.
...Над Брэстам дзень не развіднеў. —
Світальны дзень на Беларусі...
Крывавай памяці не сцерці:
Шалёна «юнкерсы» равуць,
І пыл бінтуе галаву
Салдату, што ідзе ў бяссмерце.
Заслана сонца чорным дымам.
А слова клікае жывых...
Гарыць высока, быццам штых,
Радок-уздых: «Бывай, Радзіма!»

## ПРА СЛАЎНАГА ЗЕМЛЯКА

Сярод таленавітых савецкіх палкаводцаў ганаровае месца належыць Маршалу Савецкага Саюза Васілю Данілавічу Сакалоўскаму. З яго імем звязаны многія яркія старонкі гісторыі нашых Узброеных Сіл, перамогі на франтах Вялікай Айчыннай вайны. Да Дня Перамогі ў выдавецтве ЦК КП Беларусі выходзіць буклет «Маршал В. Д. Сакалоўскі». Аўтар буклета пра нашага славутага земляка — намеснік дырэктара Гродзенскага гісторыка-археалагічнага музея А. Кіркевіч.

У. Валодзін.

# З ТЫХ НЕЗАБЫЎНЫХ ГАДОЎ

## «КОРЗУНАВА ПАЛЯНА»

«Корзунава паляна» дарагая і мілая майму сэрцу ў любую пару года. І летам, калі я іду да яе праз вымыты дажджом бярозавы гай, што пачынаецца адразу ад дарогі. І восенню, калі ў бяроз паяўляюцца першыя аранжава-жоўтыя косы. І ў зімовую пару цягне мяне да «Корзунавай паляны», ля якой трыццаць з лішнім гадоў назад пралегла адна са сцяжынак майго апаленага вайной дзяцінства.

Паляна квадратная, з курганам пасярэдзіне, на якім двума стваламі-рагулінамі ўпёрся ў неба дуб-прыгажун. Назву паляна атрымала ад прозвішча аднаго хутараніна, які жыў тут у дваццатыя гады, а потым перабраўся ў вёску, пакінуўшы на кургане дуба-асілка, які з таго часу і вартуе цішыню гэтай мясціны.

Чырвоным дываном толькі што зацвіўшай канюшыны была яна пакрыта і ў той чэрвеньскі дзень сорак першага года, калі прасёлкам міма паляны ішлі на ўсход запыленыя, стомленыя савецкія байцы. Я пасвіў тады сваю чэргу, мая пастушковая палатняная торбачка, куды маці паклала бутэльку малака, кавалак сала, пару вараных яек і галоўку цыбулі, хутка апусцела — я раздаў свой полудзень байцам. Яны, прысеўшы пад дубам на гнілую калоду, выціралі пот, з трывогай пазіралі ў неба, якое з самага ранку запаланіў гук нашых і нямецкіх самалётаў. Не спяшаючыся, салдаты жавалі зачарсцвелы хлеб, па чарзе запівалі малаком з бутэлькі, потым устаўшы, дзякавалі і пайшлі далей. А сонца шчодра дарыла паляне, пунсовай ад канюшыны, пякучыя промні, дзесьці кукавала зязюля, у небе паволі плылі лёгкія хмурынкі. Адтуль з-за аблокаў раптам сарваўся натужны—на віражы—роў матора, яго перабіў ліхаманкавы перастук кулямёта. Два танклявыя, нібы стракозы, самалёцікі з непрывычным звонам, які пераходзіў у посвіст, насядалі на нашага «ястрабка» і паласавалі яго доўгімі, нібы бічы, белымі трасамі. «Ястрабок» агрызаўся агнём, ваўчком круціўся вакол сваёй асі, так што яго кароткія закругленыя крылы паблісквалі на сонцы люстэркамі. Раптам ад нашага знішчальніка пацягнулася па небе пасма рыжага дыму, самалёт зачыхаў маторам і стрымгалоў пайшоў уніз, неверагодна хутка павялічваючыся ў памерах. Я з заміраннем сэрца чакаў, што вось-вось ад яго адарвецца чорны камячок, над ім адуванчыкам успыхне купал парашута. Ужо маляваў сабе карціну, як падбягу да лётчыка і пачастую яго спелымі, сабранымі на паляне, суніцамі.

...Бела-аранжавае дрыготкае воблака з гулам шыбанула ўгару, расплюскалася па траве. Мінут праз дваццаць ад самалёта засталіся адны пачарнелыя «рэбры». Толькі з паўгадзіны на тым месцы яшчэ рваліся патроны. Потым падышлі два вясковыя дзядзькі з рыдлёўкамі, нехта прынёс адляцелае пры ўдары аб зямлю крыло з вялікай чырвонай зоркай, на крыло паклалі абгарэлы, без ног, труп лётчыка, данеслі яго да кургана на паляне і закапалі. Байцы, што праходзілі паблізу, даведаўшыся, каго хаваюць, моўчкі знялі з плеч вінтоўкі, далі залп і пайшлі сваёй дарогай.

Хто быў той лётчык — невядома і да гэтага часу. Тутэйшыя калгаснікі расказвалі, быццам у траве паблізу месца падзення самалёта хлапчукі знайшлі паперку, на якой было напісана: «Новік Аляксандр Яфімавіч, вёска Селішча». Я наводзіў даведкі, мне адказалі, што ў Селішчах Слуцкага раёна Новікі ёсць, ала сярод іх да вайны не было лётчыкаў...

Адна надзея — на архіў Міністэрства абароны СССР, куды паслана запытанне. Магчыма, так і не высветліцца прозвішча лётчыка, што ў апошнія секунды жыцця, скрозь дымную заслону убачыў пунсовую ад кветак канюшыны паляну з дубам пасярэдзіне.

З таго чэрвеньскага спякотнага дня «Корзунава паляна» запаланіла маё сэрца, з неадольнай сілай вабіць да сябе першароднай цішынёй, чысцінёй задумлівых бяроз, курганам з дубам-вартавым на макаўцы, сцежкамі майго далёкага дзяцінства.

## ДУБ-АСІЛАК

Ён стаіць на ўзлеску, у самым канцы вёсачкі — гэткі асілак у тры абхваты, з шурпатай, у глыбокіх насечках, карой, на якой можна ўбачыць і сляды сякеры, і доўгую, пабурэлую пасму ад удару маланкі.

Толькі ў канцы мая — пачатку чэрвеня, калі на лясных палянках паяўляюцца спелабокія суніцы і грыбы-вясёлкі, «гультай» канчаткова скідае пачарнелае леташняе лісце і апранае новы ўбор.

Аднойчы я ўбачыў пад дубам сівога, сухенькага дзеда ў палатняных — цяпер такіх рэдкіх у вёсцы — портках, у рудой суконнай світцы. Прыкрыўшыся ад сонца казырком жылістай далоні, ён пазіраў на пышныя шаты «гультая» і з нейкім дакорам у голасе, нібы размаўляў з нашкодзіўшым унукам, гаварыў сам сабе: «Ну, што, вычакаў да самых сенакосаў, нагуляўся. А за маю памяць ты, дружа, пасля Юр'я выкідваў ліст. Старэеш, як і я, браце...»

Калі падысці бліжэй да дуба, то можна ўбачыць вакол ствала сляды шматлікіх вогнішчаў — і не вельмі даўніх, і ўжо кранутых зялёнай скарынкай моху. Не адно пакаленне вясковых хлапчукоў прыходзіла сюды пасядзець ля вогнішча, папячы ў прыску бульбачку, пасмажыць на ражончыку сала і да глыбокай поўначы, пакуль Вялікі Воз не перавернецца над чорнай купінай дрэва, моўчкі пазіраць на чырвонае вуголле, слухаць гукі начнога лесу. Многія з тых хлапчукоў, дажыўшы да глыбокай старасці, спяць на вясковых могілках за дваццаць крокаў ад дуба. Такіх менш. Большасць не вярнулася з войнаў. Вось і з апошняй, Айчыннай, з гэтай невялічкай — на пятнаццаць двароў — вёсачкі загінула дванаццаць чалавек, усё болей бязвусых, нежанатых хлапцоў, што спяць вечным сном на берагах Віслы, Буга і Нарава. Кажуць, з вайны дуб і перастаў упору распускацца.

## АПОШНЯЯ ГАРМАТА

Такой ліпавай алеі, як ля вёскі Старыца, на Капыльшчыне, я не сустракаў яшчэ ніколі. На добры кіламетр двума радамі векавых дрэў выцягнулася яна па пагорку, што збягае да штучнага вадасховішча, створанага летась меліяратарамі на сродкі мясцовага калгаса.

Па дамбе, што перагарадзіла раўчук Грывень, шуміць-гудзе машынамі гравійка. Узбоч яе — брацкая магіла з гіпсавым салдатам за штакетнікам. Тут пахаваны салдаты сорак першага года. Сто пяцьдзесят тры чалавекі.

На ствалах дрэў яшчэ і цяпер можна ўбачыць насечкі і рваныя пісягі— сляды даўняга бою. А калі меліяратары насыпалі дамбу, то на дне Грывеня знайшлі 122-міліметровую гармату-гаўбіцу ўзору 1938 года. З пасечаным асколкамі шчытом, з адбітым колам, без адной станіны. Пра знаходку даведаліся жыхары вёскі. Прыйшоў былы партызан, пенсіянер Антон Берднік. Зняў моўчкі шапку і ціха сказаў:

— Яны стаялі тут да апошняга снарада. Я памятаю той бой...

Маладыя бязвусыя бульдазерысты знялі зашмальцаваныя кепкі.

...Было гэта 3 ліпеня 1941 года. Танкі Гудэрыяна ўжо рваліся да Рагачова і Магілёва, а тут, можна сказаць, у глыбокім нямецкім тыле, на досвітку ў вёску ўвайшоў наш стралковы полк, што ўжо некалькі сутак з баямі вырываўся з вкружэння. Чырвонаармейцы ў кароткай сутычцы перабілі нешматлікую ахову немцаў і рушылі далей на ўсход. Але не паспелі абозы і артылерыя выйсці на гравійку, як з боку вёскі Грозава пачуліся ляскат гусеніц і натужны роў матораў. На грабяні пагорка за алеяй паказаліся чорныя танкі і ланцугі пяхоты. Адтуль на вёску паляцелі снарады і кулі. На беразе раўчука стала наша гаўбічная батарэя і павяла па танках агонь прамой наводкай. Ужо гарэлі тры машыны, а з чацвёртай ад прамога пападання зляцела вежа. Дымнымі кастрамі палалі за пагоркам падпаленыя варожыя аўтамашыны.

Тройчы фашысты ўздымаліся ў атаку і кожны раз адкочваліся назад. Але сілы былі не роўныя. З Капыля на дапамогу ворагу спяшаліся машыны з пяхотай і артылерыяй.

Адна за адной выходзілі са строю нашы гаўбіцы. Цяпер агонь вяла ўжо толькі адна гармата. Невядомы салдат з перабінтаванай галавой падпусціў варожы ланцуг і біў карцеччу, пакуль сам не зваліўся скрываўлены ля пакарэжанай асколкамі станіны. І толькі пасля гэтага немцы адважыліся наблізіцца да гарматы. Варожы танк зваліў яе ў ручай. Старажылы расказваюць, што калі яны пазней падышлі да таго месца, то не ўбачылі ніводнага снарада — адны гільзы.

І вось праз трыццаць гадоў гармата ўзнята са дна, каб цяпер навечна стаць ля брацкай магілы...

**М. ТЫЧЫНА.**

Слуцк.

# ПАЙДУ НА ЗАКЛІК Я ГАРНІСТА...

У РЭДАКЦЫІ Пухавіцкай раённай газеты і зараз успамінаюць былога супрацоўніка Аляксандра Пармона. Упершыню я пачуў пра яго некалькі гадоў назад, калі пасля заканчэння універсітэта трапіў у дружны рэдакцыйны калектыў.

Скупыя радкі яго біяграфіі, пачутыя з дзесятых вуснаў, акалічнасці смерці мужнага падпольшчыка, адсутнасць сведак на першых кроках пошукаў не вельмі абнадзейвалі. Да таго ж, большасць таварышаў, з якімі ён меў прамую сувязь па падпольнай барацьбе, загінулі: хто ў партызанах, хто на фронце.

Сам жа Аляксандр стаў першай ахвярай у доўгім спісе фашысцкіх злачынстваў па знішчэнні камсамольска-маладзёжнага падполля Пухаўшчыны.

І ўсё ж па драбінках удалося стварыць цэласную карціну жыцця высакароднага і мужнага. Выявілася, што Пармон паспяхова спалучаў з журналісцкай дзейнасцю паэтычную творчасць. Пачаліся новыя пошукі.

У рэспубліканскіх газетах удалося адшукаць паасобныя вершы Аляксандра — «Зямля», «Астроўскі—Карчагін», «Памяці Кірава» і іншыя.

І яшчэ адну хвалюючую хвіліну перажылі мы ўсе, калі ў нашых руках з'явілася бясцэнная знаходка — камсамольскі білет Аляксандра, які ён, як высветлілася, у час акупацыі насіў з сабой, зрабіўшы для білета тайнік у боце.

Незадоўга да арышту, адчуваючы, што варожае кола ўсё больш звужваецца, ён перадаў свой камсамольскі білет маці, наказаўшы зберагчы яго да светлых дзён перамогі.

Вось ён, расказ пра Аляксандра Пармона, журналіста-паэта, што не вярнуўся з вайны ў рэдакцыю.

□

У дзверы загрукалі з такой сілай, што зазвінелі шыбы. На двары пачулася ламаная руская гаворка.

Бязгучна заплакала маці. Старэйшая сястра Насця, у цемры перакульваючы ўслоны і табурэткі, падалася да дзвярэй.

Грукат паўтарыўся з новай сілай. Аляксандр зразумеў: прыйшлі па яго. Ён хуценька падышоў да шафы і выняў з яе тонкі стос папер. Успыхнула запалка і праз некалькі секунд з паперамі было скончана.

У хату ўваравалася чалавек дзесяць. Гітлераўцы накінуліся на юнака, паваліілі на падлогу, звязалі.

...Немцы ў Тальцы з'явіліся нечакана. З двара старога чыгуначніка Міхаіла Міхайлавіча Кавальчука было бачна, як да вакзала падляцела дрызіна і з яе саскочыла каля дзесятка фашыстаў. Яны агледзелі вадакачку, станцыю, пакгаўз, пахадзілі па пуцях.

Назаўтра на станцыю з'явіўся вялікі атрад немцаў. Яны пачалі работу па звужэнні калей. Хутка праз Тальку пачалі праходзіць варожыя эшалоны, у памяшканні школы размясціўся нямецкі гарнізон.

Неўзабаве паявіліся і першыя шыбеніцы...

Камендант Талькі обер-лейтэнант Гекер вывесіў загад, які абавязваў усіх камуністаў і камсамольцаў прайсці рэгістрацыю ў Мар'інай Горцы.

У Тальцы засталося шмат выпускнікоў мясцовай школы. Сярод іх Іван Пятроўскі, Мікалай Паўловіч, Мікалай Акульчык, Іван Абрамовіч, Мікалай Кульбіцкі, Мікалай Стока, Мікалай Даніленка, Зіна Акульчык, Эма Ліскоўская.

У адказ на загад немцаў камсамольцы вырашылі стварыць падпольную камсамольскую арганізацыю. На адной з чарговых сустрэч правялі сход і выбралі сакратара. Ім стаў Іван Пятроўскі.

Мікалаю Кульбіцкаму, які яшчэ ў школе захапляўся радыё і быў у школьным радыёгуртку, даручылі сабраць радыёпрыёмнік. Зіна і Эма павінны былі перапісваць і распаўсюджваць лістоўкі. Івану Пятроўскаму дасталося самае адказнае заданне: наладзіць сувязь з партызанамі.

Праз сувязнога Паўла Галіеўскага, які працаваў конюхам у мар'інагорскай жандармерыі, удалося звязацца з падпольшчыкамі Мар'інай Горкі, а праз іх з атрадам «Полымя»...

Перапляценню сцежак Івана Пятроўскага і Аляксандра Пармона дапамог выпадак. Каб пазбегнуць падазрэнняў, Іван разам з бацькам уладкаваўся на работу ў Талькаўскую школу.

Старэйшая сястра Аляксандра Насця, якая таксама працавала раней настаўніцай, вымушана была шукаць работу, каб хоць нейкім чынам забяспечыць сям'ю хлебам. На сямейнай нарадзе было вырашана, што Аляксандр сходзіць да Пятроўскіх і папросіць дапамагчы ўладкаваць на работу сястру.

Іван Пятроўскі сустрэў Аляксандра пытаннем: «Што будзеш рабіць далей? — І, крыху памаўчаўшы, дадаў:—Калі згодзен увайсці ў падпольную камсамольскую групу, давай згоду. Будзем разам біць фашыстаў!»

Давяраць Аляксандру ў Івана былі ўсе падставы, Аляксандр, камсамолец з 1938 года, працаваў у рэдакцыі раённай газеты.

Да Айчыннай вайны ў рэспубліканскіх газетах нярэдка з'яўляліся яго цікавыя матэрыялы і вершы. Летам 1939 года Аляксандра, як маладога здольнага паэта, запрасілі ў Мінск на творчы семінар пачаткоўцаў. Асабліва запомніўся Івану верш, змешчаны ў газеце «Літаратура і мастацтва» ў ліпені 1939 года. Трывожны быў час, над светам згушчаліся хмары вайны.

Аляксандр пісаў:

**Люблю цябе, зямля Саветаў,**
**Твае зялёныя сады —**
**І ў восень познюю і летам,**
**І ў дождж, і ў месяц малады.**

Гэтай зямлі ён прысягаў на вернасць, за яе рыхтаваўся ісці ў смяротны бой.

**Калі ж праклятыя фашысты**
**Вайны раздзьмухаюць агні,**
**Пайду на заклік я гарніста**
**Твае палеткі бараніць!**

На прапанову Івана Аляксандр адказаў згодай. У сваю чаргу падзяліўся навіной, што трымае сувязь з былым сакратаром раённай газеты Барысам Траццяковым, што з хлопцамі падабраў тое-сёе са зброі на полі бою.

На развітанне дамовіліся, што Пармон напіша тэкст клятвы падпольшчыкаў.

Неўзабаве падпольшчыкі здзейснілі некалькі дыверсій на чыгунцы. Член іх групы Іван Абрамовіч падклаў некалькі магнітных мін пад цыстэрны з палівам, і эшалон пасля прыбыцця на станцыю Асіповічы ад выбуху загарэўся і запаліў суседні састаў з боепрыпасамі. Саша Пармон і Саша Кушнерчык з вёскі Насыцк узарвалі чы-

# РАДКІ ФРАНТАВЫХ ПІСЕМ

ГЭТА НЕЛЬГА назваць нейкім хобі, гэта нават не зусім звычайнае, уласцівае чалавеку захапленне пошукамі... У маіх журналісцкіх пошуках хутчэй была ўсвядомленая неабходнасць, пачуццё абавязку: знайсці, сабраць салдацкія пісьмы, пакуль яны яшчэ цэлыя, прачытаць іх людзям, пакуль зусім не выцвілі скупыя радкі, напісаныя таропкай рукой франтавіка. Хацелася, каб гэтыя пісьмы зноў загаварылі, каб блізкія і родныя пачулі словы сваіх бацькоў, сыноў, якія ўжо ніколі не пераступяць парога бацькоўскай хаты...

І пісьмы тых, хто загінуў, абараняючы сваю сацыялістычную Радзіму ў гады Вялікай Айчыннай вайны, былі сабраны. І некалькі месяцаў Гомельская студыя тэлебачання, дзе я працаваў, знаёміла тэлегледачоў з гэтымі дарагімі рэліквіямі, словамі маладых і бывалых воінаў расказвала аб нялёгкім салдацкім лёсе, аб тым, што нават у самы цяжкі час, не заўсёды верачы ў магчымасць застацца ў жывых, салдат верыў у перамогу над фашысцкай Германіяй.

І вось яны зноў ляжаць перада мной, гэтыя пісьмы... Пісьмы і здымкі загінуўшых. Сінее маёвы змрок. З шумлівай вуліцы чуваць ажыўленыя галасы, дзіцячы смех... А на мяне са здымкаў глядзяць яшчэ зусім юныя, бязвусыя твары хлопцаў. У вачах адных—вясёлае здзіўленне, амаль хлапчуковая гарэзлівасць, у другіх — журботная задуменнасць, сур'ёзнасць не па гадах. Якія розныя характары, якое markdown рознае жыццё і які агульны трагічны лёс... Сэрца ахоплівае трывожны смутак, сэрца сціскаецца ад жалю. На памяць прыходзяць словы паэта:

Час хаду у новы дзень прыспешвае,
Успаміны горкія драбніць...
А ўсё роўна помнім сорак першы,
Як і сорак пяты—да драбніц.
Не закрыць ні радасцю, ні бытам
Тых, што ўпалі ніцма на лаўжы.
Колькі іх, забітых і забытых
Пад нагамі нашымі ляжыць!

Колькі! Мой стрыечны брат Леанід Таранаў згарэў у танку на прыбалтыйскай зямлі. Цяжка адшукаць магілы і іншых. А лісты захаваліся...

Вось два кароценькія пісьмы пачатку і канца вайны.

Першае піша Пётр Зайцаў з вёскі Малыя Нямкі Веткаўскага раёна ў 1941 годзе свайму сябру:

*«Добры дзень, дарагі друг Ваня! Танкісцкае баявое прывітанне з Пяцігорска...*

*Як табе вядома, я ўжо ваджу танк і іду ў бой танкістам. Раскажы пра гэта ўсім аднавяскоўцам, асабліва дзяўчатам. Нахабнаму Гітлеру, які цягнецца сваімі бруднымі лапамі да нашай шчаслівай Радзімы, мы зломім шыю, і болей ніколі не будзе існаваць паганая гітлераўская дзяржава! Так, Ваня? Шкада толькі, што хлопцы праліваюць кроў з-за гэтых гітлераўцаў...»*

У баі пад Пяцігорскам Пеці Зайцава не стала.

І вось другое пісьмо, ужо ў канцы вайны. Яго напісаў з фронту бацькам семнаццацігадовы Сяргей Юдэнка з гарпасёлка Васілевічы:

*«Прывітанне з фронту. Добры дзень, дарагая мама, браты Лёнік і Генік!*

*Сёння я іду на штурм фашысцкага логава. Жывы буду — буду пісаць. Мама, пра мяне не турбуйся і не плач. Я немцам адпомшчу за вас, за горы матак... Не плач, мама...*

*Ваш сын Сяргей».*

І радавы Юдэнка, як і многія яго аднагодкі, загінуў смерцю храбрых... Абодва гэтыя лісты яднае высокі патрыятычны дух савецкага салдата, яго імкненне ў што б там ні стала перамагчы ворага, адпомсціць за зганьбаваную Радзіму.

Але вернемся да пачатку вайны. Несакрушальнай верай у перамогу прасякнута і пісьмо Міхаіла Аляксеенкі, які загінуў у 1942 годзе пад Сталінградам. Гэтае пісьмо бацькам у Веткаўскі раён з Віцебска было напісана ўсяго праз чатыры дні пасля нападу гітлераўскай Германіі на нашу краіну:

*«Фашысцкая гадзіна парушыла наша спакойнае жыццё... Вораг будзе разбіты і перамога будзе за намі. Я і мае таварышы знаходзімся зараз у Віцебску і робім усё, каб абараніць насельніцтва ад ворага. Шаноўныя бацькі! Прашу вас, не перажывайце вельмі... Нам выпала стаць на абарону свайго народа, і мы з чэсцю выканаем свой абавязак. Я думаю, што ў гэтым мяне падтрымаюць і мае браты, а вашы сыны Андруша і Сямён. Прашу вас, дарагія бацькі, як можна толькі памагайце на калгасных палях, каб мы маглі ваяваць супраць Гітлера...»*

А якім клопатам аб фронце і савецкім тыле прасякнута пісьмо калгасніка з Веткаўскага раёна Рыгора Буцякова! Пісьмо датавана 1944 годам.

*«Прывітанне з фронту дарагой жонцы Марусі і дзецям Веры і Валодзю. Жадаю вам заўсёды быць шчаслівымі ў вашым будучым жыцці.*

*Дарагая жонка, я — жывы, а здароўе маё — сама ведаеш, два разы кантужаны. Ты пісала, што Баранаў Грышка прыехаў у адпачынак. Я не прыеду, мяне пакуль не чакай дамоў. Трэба разбіць Гітлера, а тады з перамогай вярнуся.*

*Дарагая, ты пішаш, што цябе абклалі падаткамі, мясам, малаком, яйкамі. Ну, што ж... Карову ты маеш. І ты выправіла свайго мужа і двух сыноў у армію. Дык і памагаць нам трэба. Ты ж сама ведаеш, што атрымліваем мы ў арміі гэтае мяса і масла. Дарагая жонка, трэба ўсе сілы прыкласці вам у тыле для перамогі. А мы ўжо тут будзем граміць ворага штыкамі ды снарадамі.*

*На гэтым — да пабачэння... Я ўжо, лічы, у Германіі. Хутка і ў Берлін прыедзем... Нам засталося мала ваяваць. Кажуць, Гітлер ужо драпануў з Берліна, недзе пад печкай хаваецца. А ўсё роўна знойдзем».*

Скупыя радкі салдацкіх пісем... Нельга чытаць іх без хвалявання. У іх столькі любві да родных мясцін, да сваіх блізкіх, але... салдат ведае свой абавязак: пакуль не выгнаны з роднай зямлі вораг, пакуль ён не разбіты, не варта і гаварыць аб доўгачаканых сустрэчах...

Незвычайна хвалюе ліст сержанта Юрыя Хобачава, які загінуў недалёка ад палескага гарадка Калінкавічы. У горадзе свята шануюць памяць украінскага хлапца з Харкава. Вучні мясцовай сярэдняй школы вядуць перапіску з маці Юрыя — Наталляй Дзмітрыеўнай. Яна, дарэчы, і даслала некаторыя пісьмы сына.

Хочацца без скарачэнняў перадаць адно з іх, апошняе:

*«Родная і любімая матуля! Ты не ўяўляеш, якое шчасце для мяне прыносяць твае пісьмы. Кожны дзень я з нецярпеннем чакаю нашага паштальёна, і калі ёсць для мяне ліст — дзень становіцца светлым, як свята. Хай паміж намі сотні кіламетраў шляху, але маё сэрца жыве разам з табой.*

*Мілая мама, я часта думаю аб тваім лёсе. Няўжо, кажу я сам сабе, для яе не наступяць светлыя дні, няўжо за ўсё гора, пакуты душа маёй мамы не зведае радасці і суцяшэння. Я ненавіджу страшэннай салдацкай нянавісцю праклятых ворагаў, якія прынеслі нам такое гора, я помшчу за знявечанае жыццё, за пакуты і кроў.*

*З 11-га мы наступаем. Наша часць удзельнічала ў баях за Беларусь. Мы ў ліку першых уварваліся ў Калінкавічы. Нельга расказаць, што гэта за бai! Немцы супраціўляюцца ярасна і з нейкай вар'яцкай упартасцю. Адчуваюць, гады, што ім прыходзіць канец. Мясцовасць навокал (з той пары, як перайшлі Дняпро) — лясы і балоты, дарог мала і вёскі рэдкія. Нашы часці ўпарта пракладваюць сабе шлях на Захад. Выпальваем фрыцаў са шматлікіх дзотаў, бліндажоў, траншэй. Барацьба ідзе не на жыццё, а на смерць. Трэба толькі бачыць, як б'юцца зараз байцы! Не схавацца рабаўнікам і забойцам ад расплаты.*

*Родная, любімая мая мама! У гэтыя дні я перагледзеў усё сваё жыццё: ці не было ў ім якой памылкі? Я ўбачыў сваімі вачыма ўсё да канца. Былі такія хвіліны, калі ў душы міжвольна ўжо развітваўся з усім дарагім на свеце...*

*У мінулым месяцы наша часць у ліку іншых вызваліла «лагер смерці». Сярод балота, абнесенага калючай агароджай, паміралі страшэннай, галоднай смерцю звыш 10 тысяч старых, жанчын і дзяцей... Жахлівая карціна звярынага злачынства гітлераўцаў назаўсёды ўрэзалася ў сэрца.*

*Родная мая, я ўсё думаю пра цябе і не дачакаюся таго дня, калі зноў убачу твой добры твар... У агні і дыме я нашу запаветную мару: закончыцца вайна, я вярнуся да вас і сваёй працай зраблю жыццё родных і любімых шчаслівым. Што б там ні было наперадзе — сіл у мяне хопіць. Да хуткай сустрэчы!»*

Ён загінуў, вызваляючы нашу беларускую зямлю... Мы заўсёды застанемся глыбока ўдзячнымі Наталлі Дзмітрыеўне, якая вырасціла і выхавала такога сына. І не толькі ёй — многім, многім маці, сыны якіх не вярнуліся з поля боя. І ўдзячнымі нашчадкамі ніколі не будуць забыты імёны тых, хто змагаўся на франтах Вялікай Айчыннай вайны і аддаў у барацьбе за Радзіму самае дарагое — жыццё.

...Журботна перабіраю невялікі стос пажоўклых пісем, чытаю знаёмыя прозвішчы землякоў. Сярод іх трапляецца на вочы копія ліста Наталлі Цярэнцьеўны Кусковай, муж якой пахаваны ў Чачэрскім раёне (магілу воіна клапатліва даглядаюць хлопчыкі і дзяўчынкі мясцовай школы). Ім удава і піша ліст, якім мне хочацца закончыць гэтыя нататкі:

*«Добры дзень, чырвоныя следапыты! Адказвае на ваша пісьмо жонка Рыгора Кускова, воіна, аддаўшага жыццё за Радзіму.*

*Дарагія дзеці! Ваша пісьмо вельмі ўсхвалявала мяне. Вы самі разумееце... Яно падмацавала маю веру ў тое, што ў нас расце добрае маладое пакаленне, вельмі чулае, якое так шануе памяць загінуўшых абаронцаў нашай Радзімы. Рада за вас, вялікае вам мацярынскае дзякуй ад сябе асабіста і родных Рыгора Агеевіча за вашу ўвагу... На гэтай праклятай вайне не стала самага блізкага мне чалавека — бацькі траіх дзяцей. Цяжка ўсё гэта ўспамінаць. І ў той жа час, перадумаўшы ўсё, крыху супакойваюся: мой муж аддаў жыццё, каб вы, дзеці, жылі спакойна і шчасліва...»*

**Яўген КАРШУКОЎ.**



**Камсамольскі білет і карэспандэнцкае пасведчанне А. Пармона.**

гуначны мост каля семафора на станцыі Талька.

Дыверсіі партызан і падпольшчыкаў сталі настолькі смелыя і адчувальныя, што немцы зусім спынілі начны рух на чыгунцы.

Яны збіваліся з ног, каб знайсці падпольшчыкаў. Аб існаванні апошніх, акрамя дыверсій на чыгунцы, гаварылі лістоўкі, якія кожную ноч з'яўляліся ў Тальцы і навакольных вёсках. Фашысты здагадваліся, што ў падпольшчыкаў ёсць радыёпрыёмнік. Над Мікалаем Кульбіцкім, у якога знаходзіўся радыёпрыёмнік, пачалі збірацца хмары. Прыёмнік было вырашана перанесці на часовае захаванне да Аляксандра Пармона.

Аб падзеях тых грозных дзён расказвае сястра Аляксандра Пармона, настаўніца Угодзіцкай пачатковай школы Пухавіцкага раёна Анастасся Іванаўна Пармон:

«Неяк мне і маці Саша прызнаўся, што разам з хлопцамі ў Тальцы стварыў падпольную арганізацыю.

Да нас пачалі заходзіць Уладзімір Кушнерчык, Міхаіл і Іван Пятроўскія, Мікалай Сток, Аляксандр Мазанік. Сашка па начах некуды знікаў. Пачаліся выбухі на чыгунцы. Аднойчы ён забег у хату і гаворыць мне і маці: «Не палохайцеся, зараз будзе выбух». Не паспеў ён зачыніць дзверы, як пачуўся выбух. Тады ён і кажа: «Малайчына Сашка!»

Неяк у пачатку зімы 1941 года брат паехаў у Талькаўскі млын малоць зерне. Там ён быў амаль усю ноч. Толькі пад раніцу з'явіўся дадому. Калі ён яшчэ спаў, маці ў клеці ўбачыла радыёпрыёмнік і сказала аб гэтым мне. Мы пачалі прасіць брата, каб ён схаваў прыёмнік. Вечарам да нас прыйшлі Іван Пятроўскі і Мікалай Сток, узялі той прыёмнік і сталі ўстанаўліваць у нашай варыўні, мы з маці ў гэты час назіралі за вуліцай. Праслухаўшы перадачы, Іван і Мікалай засталіся ў нас начаваць.

Мы з маці заўважылі, што Саша пачаў шмат пісаць. Аднойчы ён нам прызнаўся, што піша паэму «Клятва».

Наколькі я памятаю, аб вершах Аляксандра да вайны прыхільна гаварыў Міхась Лынькоў, у якога ён неаднаразова бываў.

Паэма засталася незакончанай. Памерам яна была ў агульны сшытак, і падзялялася на раздзелы. Размова ў ёй ішла аб арганізацыі і рабоце мясцовых падпольных груп.

Добра памятаю, як на другі дзень пасля арышту Аляксандра на печы я знайшла лісток паперы з вершам: «На магіле партызана». Толькі яго прачытала, як убачыла, што да нас у хату ідуць паліцэйскія на чале з Васілём Кульбіцкім. Верш я парвала і спаліла. Змест яго быў наступны. У барацьбе з ворагам магчыма падпольшчыкі і партызаны загінуць, але іх сяброўкі (былі названы імёны Зіны, Марыі і Тані) пасля перамогі будуць памятаць сваіх загінуўшых таварышаў і ўпрыгожваць іх магілу вянкамі з кветак. Нехта з партызанаў прыдумаў да верша матыў, і песню часта спявалі.

Аб гэтым у навакольных вёсках успамінаюць і сёння.

Пасля мітынгу і сходаў партызаны спявалі яго на канцэртах і ў перапынках паміж баямі.

Разам з іншымі аднавяскоўцамі Сашу ставілі ахоўнікам на чыгунцы. Калі брат быў на пасту, узрываў не было. Партызаны рабілі гэта, каб адвесці ад яго падазрэнне. А як толькі ён аддзяжурыць, праз некалькі гадзін рэйкі ўзлятаюць у паветра.

Неўзабаве мы даведаліся, што Сашу накіроўваюць у абоз. Не спадзеючыся хутка вярнуцца, брат перадаў паэму ў вёску Каляючы Пецю Мінічу, а прыёмнік я ў мяху з бульбай пранесла праз увесь Насыцк і перадала яго Уладзіміру Кушнерчыку.

Вясной 1942 года, дакладней у канцы сакавіка, у Тальцы пачаліся вобыскі ў падпольшчыкаў. Прыляцела паліцыя і да нас. Арыштавалі брата, Уладзіміра Кушнерчыка, Аляксандра Астратку і Міхаіла Пятроўскага. Арышт праводзілі немцы і мясцовыя паліцэйскія Кульбіцкі і Трус. Арыштаваных павезлі ў Тальку.

— На другі дзень пасля арышту брата, — расказвае далей Анастасся Іванаўна, — я пайшла ў Талькаўскую паліцыю. Начальнік паліцыі Кульбіцкі выгнаў мяне. Ён брыдка лаяўся і са слоў яго я здагадалася, што хлопцы спрабавалі ўцячы, але ім гэта не ўдалося.

Назаўтра іх спешна адправілі ў Асіповічы. Пасля допыту пагналі за горад. Відавочцы расказвалі, як ішлі яны па апошнім веснавым снезе, моцна прывязаныя адзін да аднаго, босыя і акрываўленыя. Праз некалькі дзён хтосьці паказаў нам месца, дзе падпольшчыкі былі расстраляны.

Пахаваць мы іх не паспелі. На наступны дзень фашысты арыштавалі мяне, маці і брата Паўла, які прыехаў з Мінска. Разам з намі былі арыштаваны Аляксандр Мазанік і Люба Кульбіцкая. Усіх нас адправілі ў асіповіцкі канцлагер».

На месцы загінуўшых мсціўцаў у строй станавіліся новыя змагары. 24 кастрычніка 1942 года партызаны атрада «Полымя» правялі смелую аперацыю па ўзрыве моста праз раку Сіняўка. Разведку мясцовасці і сіл праціўніка правялі маладыя падпольшчыкі Талькі, сябры і таварышы Аляксандра Пармона.

Даўно адгрымелі баі і паходы. Але чым далей адносяць нас гады ад грозных падзей мінулай вайны, тым больш яскрава, больш велічна паўстае перад намі подзвіг савецкага народа. Многім не давялося дажыць да светлага дня Перамогі. Не вярнуўся ў сваю рэдакцыю і Саша Пармон. Але памяць аб ім, як свет далёкай зоркі, што патухла ўжо, будзе нязгасны.

**Анатоль ЯРОХІН.**

# БАЙЦЫ АДНАГО ФРОНТУ

*З ПЛЕНУМА ПРАЎЛЕННЯ САЮЗА КІНЕМАТАГРАФІСТАЎ*

НА XXIV з'ездзе КПСС Л. І. Брэжнеў гаварыў, што поспехі савецкай літаратуры і мастацтва былі б яшчэ больш значнымі, а недахопы зжываліся б хутчэй, калі б наша літаратурна-мастацкая крытыка больш актыўна праводзіла лінію партыі, выступала з большай прынцыповасцю, спалучаючы патрабавальнасць з тактам, з беражлівымі адносінамі да творцаў мастацкіх каштоўнасцей...

Гэтыя словы Л. І. Брэжнева прывёў кандыдат мастацтвазнаўства **А. Красінскі** ў сваім дакладзе на пленуме Саюза кінематаграфістаў БССР, прысвечаным стану і задачам кінакрытыкі ў святле рашэнняў XXIV з'езда партыі і Пастановы ЦК КПСС «Аб літаратурна-мастацкай крытыцы».

— Партыйныя дакументы заклікаюць усіх нас яшчэ і яшчэ раз уважліва выверыць крытэрыі ацэнак твораў мастацтва, — сказаў А. Красінскі, — падтрымаць усё добрае, плённае ў крытыцы і самакрытычна аднесціся да яе недахопаў. Трэба адкрыта і прама гаварыць пра тое, што нас задавальняе і што перашкаджае нашай рабоце.

У дакладзе А. Красінскага былі разгледжаны здабыткі і недахопы сённяшняга беларускага кіназнаўства і крытыкі ў цеснай сувязі з развіццём усяго нацыянальнага кінамастацтва. А. Красінскі аднёс да дасягненняў беларускай кінематаграфіі такія стужкі, як «Канстанцін Заслонаў», «Гадзіннік спыніўся апоўначы», «Дзяўчынка шукае бацьку», «Праз могілкі», «Альпійская балада», «Масква — Генуя», «Іван Макаравіч», «Паланез Агінскага», а таксама шэраг дакументальных фільмаў аб'яднанняў «Летапіс», тэлеаб'яднання кінастудыі і Беларускага тэлебачання.

З паняццем «беларускае кінамастацтва» глядач перш за ўсё звязвае фільмы пра Вялікую Айчынную вайну, сказаў А. Красінскі. І таму, што ўдзельная вага іх на «Беларусьфільме» вялікая, і таму, што менавіта ў гэтых фільмах з найбольшай пераканаўчасцю раскрываецца мужны характар нашага народа. На жаль, сярод фільмаў аб сучасным жыцці няма глыбокіх, значных па ідэйных і мастацкіх вартасцях твораў.

У цэлым беларуская кінакрытыка імкнецца ўздзейнічаць на творчы працэс, узнімаючы актуальныя, надзённыя пытанні мастацкага і дакументальнага кіно. Сістэматычна выступаюць у прэсе па гэтых пытаннях кіназнаўцы Е. Бондарава, В. Смаль, В. Нячай, Г. Ратнікаў, Г. Падбярэзскі, С. Міхайлава, Э. Мілова, літаратары і журналісты Б. Бур'ян, В. Поляк, Д. Манаева, Р. Ярохін, А. Чарноў, Г. Цвяткова, Ф. Яфімаў, І. Рэзнік, Я. Крупеня і іншыя. Мы вітаем новых аўтараў, якія ўліваюцца ў атрад кінакрытыкаў з ліку журналістаў, студэнтаў, людзей сумежных і несумежных прафесій.

За апошнія гады ў рэспубліцы прыкметна ажывілася кіназнаўства, яно ўмацавалася тэарэтычна і прафесійна. Апошняя работа беларускіх вучоных — двухтомнае выданне «Гісторыі беларускага кіно» А. Красінскага, В. Смаля, В. Нячай, Г. Ратнікава і Г. Падбярэзскага — атрымала станоўчую ацэнку ва ўсесаюзным друку. Выйшлі асобныя кнігі беларускіх кіназнаўцаў Е. Бондаравай і Л. Шылавай, В. Смаля, В. Нячай, А. Красінскага.

Аднак наша кінакрытыка і кіназнаўства, гаворыць дакладчык, яшчэ не падняліся на ўзровень задач, якія дыктуе сучаснасць. У некаторых рэцэнзіях глыбокі аналіз фільмаў, якога чакаюць іх аўтары, падмяняецца павярхоўным разборам, пераказам сюжэта, прыблізным апісаннем знешніх прыкмет кінатвора. Чыста рэкламныя мэты ставяць перад сабой «Кінатыдзень Мінска», «На экранах Беларусі», а таксама некаторыя артыкулы, што з'яўляюцца ў перыядычным друку. Вельмі мала ўвагі ўдзяляюць кінамастацтву часопісы «Маладосць», «Неман», «Полымя» і «Беларусь». Нават тыя выданні, якія сур'ёзна займаюцца пытаннямі кінамастацтва, абмяжоўваюцца ў асноўным рэцэнзіямі ці рэпартажамі і вельмі мала змяшчаюць праблемных артыкулаў. Хацелася б і на старонках «Літаратуры і мастацтва» бачыць больш цікавых дыскусій, спрэчак, глыбокіх абагульняючых артыкулаў.

А. Красінскі заклікаў членаў Саюза кінематаграфістаў да стварэння сапраўды творчай атмасферы, у якой і аўтары фільмаў, і іх рэцэнзенты будуць байцамі агульнага фронту барацьбы за выдатную якасць карцін з маркай «Беларусьфільм».

Першым у спрэчках выступіў аператар **Ю. Марухін**. Ён сказаў, што асобныя творчыя работнікі кінастудыі часам занадта хваравіта ўспрымаюць крытычныя заўвагі рэцэнзентаў, нібыта апошнія вінаваты ў іх творчых пралiках. Аднак і некаторыя рэцэнзенты лічаць магчымым публікаваць матэрыялы, у якіх яны проста канстатуюць факты, ацэньваючы фільм па «пяцібальнай сістэме». Гэта, зразумела, нічога не дае аўтарам фільма, для якіх вельмі важна асэнсаваць прычыны свайго поспеху ці няўдачы. Калі творчым пошукам рэжысёраў і акцёраў яшчэ ўдзяляецца ўвага крытыкаў, то аператар звычайна толькі ўпамінаецца ў дужках. У самым лепшым выпадку яму прысвячаецца адна фраза, маўляў, ён вельмі прыгожа зняў захад ці ўзыход сонца. Ю. Марухін выказаў пажаданне, каб крытыкі больш сур'ёзна, больш уважліва адносіліся да ўсіх стваральнікаў фільма.

Кандыдат мастацтвазнаўства **В. Нячай** прывяла вытрымку з даклада І. Мележа на пленуме Саюза пісьменнікаў пра дыскусію па кіно ў «Літаратуры і мастацтве». Мележ лічыць, што гэта была вострая і цікавая дыскусія, якая, на жаль, асаблівых змен у стане нашых спраў не дала; становішча ў мастацкай кінематаграфіі застаецца трывожным, у фільмах шмат рамесніцтва, мала сказана глыбокага, сапраўды ад сэрца пра жыццё беларускага народа. Нашай нацыянальнай кінематаграфіі, гаворыць прамоўца, маглі б прынесці вялікую карысць сумесныя абмеркаванні сцэнарнага партфеля студыі з Саюзам пісьменнікаў. Нізкая якасць многіх нашых кінасцэнарыяў павінна зрабіцца праблемай нумар адзін не толькі для беларускай крытыкі, але і непасрэдна для работнікаў кінастудыі. Хацелася б, каб Саюз кінематаграфістаў больш увагі ўдзяляў эстэтычнаму выхаванню гледача: наладжванню дыскусій, абмеркаванням новых фільмаў з гледачамі, выступленням творчых работнікаў перад самымі рознымі аўдыторыямі.

Аб ідэйна-мастацкіх крытэрыях, партыйнай прынцыповасці і патрабавальнасці крытыкі гаварыў першы сакратар праўлення Саюза кінематаграфістаў БССР **Ул. Корш-Саблін**. Адказнасць кінакрытыкі асабліва ўзрастае ў сувязі з папулярнасцю нашага кіно, самага масавага з усіх мастацтваў. Не гаворачы ўжо пра спецыяльныя навуковыя даследаванні па кінамастацтве, нават проста добрая рэцэнзія можа стаць дзейсным сродкам не толькі эстэтычнага, але і палітычнага выхавання працоўных, моцнай зброяй ідэалагічнай барацьбы.

Ул. Корш-Саблін спыніўся на прыкладах, калі кампліментарная ці занадта рэзкая крытыка перашкаджала рэжысёру аб'ектыўна ацаніць вынікі сваёй працы і, адпаведна, не садзейнічала яго творчаму росту. Прамоўца гаварыў таксама пра ролю рэдактара ў творчым працэсе.

Мастацкі кіраўнік аб'яднання «Летапіс» **Б. Сарахатунаў** выказаў незадавальненне тым, што ў дакладзе, як і ва ўсёй кінакрытыцы, недастаткова месца ўдзелена такому важнейшаму жанру кіно, як дакументалістыка, хоць менавіта дакументальныя стужкі «Беларусьфільма» не раз удастойваліся высокай ацэнкі на ўсесаюзных і міжнародных конкурсах. Б. Сарахатунаў заклікаў кінакрытыкаў больш пільна і ўважліва сачыць за пошукамі кінадакументалістаў, не збіваць іх неапраўданымі кампліментамі, і не закрэсліваць іх творчасць пры няўдачы.

Кандыдат мастацтвазнаўства **Е. Бондарава** дала разгорнутую характарыстыку кінакрытыкі на старонках нашай прэсы. У прыватнасці, прамоўца адзначыла жанравую аднастайнасць матэрыялаў па кіно ў «ЛіМе»: гэта ў асноўным рэцэнзіі і рэпартажы са здымачных пляцовак, прычым крытычная інтанацыя першых, на жаль, рэдка супадае з прыўзнята-святочным тонам апошніх. Вельмі мала друкуецца праблемных артыкулаў і аглядаў..

Адзначыўшы вельмі нізкі ўзровень рэцэнзій у абласным і раённым друку, Е. Бондарава падзялілася сваім вопытам падрыхтоўкі кінарэцэнзентаў на факультэце журналістыкі БДУ.

Пра адсутнасць сапраўдных творчых кантактаў паміж секцыямі Саюза кінематаграфістаў гаварыў кандыдат мастацтвазнаўства **В. Смаль**. Паколькі практычна не працуюць секцыі мастацкага, дакументальнага кіно, тэлебачання, — кінакрытыкі фактычна абмяркоўваюць фільмы толькі ў сваім вузкім коле. Шмат гаворыцца на розных пасяджэннях і нарадах пра неабходнасць сістэматычнага абмеркавання сцэнарыяў і фільмаў на розных этапах творчага працэсу. Аднак практычных вывадаў не робіцца. На думку прамоўцы, рэакцыя пэўнай часткі кінематаграфістаў на крытыку няправільная. Паўтара года на кожным пасяджэнні работнікі студыі з крыўдай успамінаюць артыкулы В. Нячай і А. Гантмана «Беларусьфільм — учора, сёння, заўтра», аспрэчваючы асобныя прыватныя моманты і не закранаючы сутнасці праблемы: чаму на «Беларусьфільме» з'яўляецца так многа шэрых стужак.

Прад'яўляючы да фільмаў самыя высокія патрабаванні, крытыкі бываюць далёка не такімі патрабавальнымі да сябе, сказаў сакратар праўлення Саюза кінематаграфістаў БССР **І. Дабралюбаў**. У іншых рэцэнзіях сустракаюцца прыкрыя недакладнасці, якія сведчаць пра непавагу да работы рэжысёра, і такім чынам знікае жаданне прыслухоўвацца нават да карысных заўваг. Хацелася б ад крытыкаў большай дакладнасці, кампетэнтнасці, дасведчанасці і, безумоўна, добразычлівасці, якая праяўляецца не ў кампліментарнасці, а ў шчырым жаданні дапамагчы. На думку прамоўцы, менавіта такой добразычлівасці не хапіла аўтарам справаздачы з абмеркавання фільма «Неспадзяванае каханне», змешчанай у «Літаратуры і мастацтве».

І. Дабралюбаў сказаў, што Саюз кінематаграфістаў недастаткова ўдзяляе ўвагі тэарэтычным пытанням кіно. Часцей праводзяцца вытворчыя канферэнцыі, і часам эканамічныя паказчыкі становяцца больш важнымі, чым ідэйна-мастацкія вартасці карцін.

Недастатковую ўвагу крытыкаў да праблем тэлебачання справядліва адзначыў галоўны рэжысёр Беларускага тэлебачання **Ул. Станкевіч**. Наша тэлебачанне назапасіла ўжо дастатковы практычны вопыт, і настаў час тэарэтыкам яго абагульніць і тым самым дапамагчы студыі ў яе далейшым творчым росце.

У спрэчках па дакладзе выступілі рэжысёры **І. Вейняровіч**, **П. Васілеўскі**, крытык **Г. Тарасевіч**, намеснік старшыні Усесаюзнай камісіі тэорыі і крытыкі Саюза кінематаграфістаў СССР **Я. Громаў**.

У рабоце пленума прыняў удзел загадчык аддзела культуры ЦК КПБ С. Марцалеў.

Пленум прайшоў у дзелавой, прынцыповай атмасферы агульнай зацікаўленасці ў далейшым плённым развіцці беларускага кінамастацтва.

«НУ, БРАТКА, Гомель — гэта ўжо амаль поўдзень!» Жарт жартам, але, вылятаючы тыдні два назад з Мінска ў Гомель, я, чакаючы пасадкі ў самалёт, зябка пацепваў плячыма — пранізлівы, амаль марозны вецер праціnaў мяне праз плашчык ледзь не наскрозь. А праз гадзіну, апынуўшыся ў горадзе на Сожы, давялося зняць і перакінуць той плашчык цераз руку — тут лагодна, зусім па-летняму свяціла сонца, вока цешыла яркая зяленіва лістоты, на вуліцах ва ўсю гандлявалі марожаным і хлебным квасам, а па праспекце імя Леніна шыпела і штурхала перад сабой рознакалёрую вясёлку машына-палівачка — кожная кропелька-пырска ззяла-пералівалася ў сонечных праменнях...

Іван Кірэевіч, прыжмурыўшыся (мы доўга сядзелі ў пакоі), прапанаваў:

— Мо пойдзем у парк? Там люднавата будзе, але пагаманіць можна.

Пайшлі ў парк. У ім аказалася не люднавата, а людна — дзень быў суботні. Найбольшы тлум быў унізе, на набярэжнай шырокага (яшчэ не ўвайшоў у берагі) Сожа. Тут грымела музыка, ля прычалаў, да якіх раз-пораз падыходзілі прагулачныя цеплаходзікі, тоўпіліся ўперамешку дарослыя і дзеці, загарэлыя (ужо загарэлыя!) хлопцы і дзяўчаты ў купальніках спускалі на ваду і выцягвалі з вады байдаркі і каноэ.

— Гэта яшчэ нішто. Пачатак. От пазней крышку, — Іван Кірэевіч павёў рукой, — увесь бераг будзе застаўлены лодкамі. — І дадаў: — Я сваёй яшчэ не спускаў сёлета... Люблю Сож. Лепшы адпачынак — махнуць па ім, прыхапіўшы палатку і харчоў, уніз альбо ўверх...

Тут, у славутым Гомельскім парку, мне даводзілася быць, лічы, упершыню, і Іван Кірэевіч неўпрыкмет стаў маім гідам — дасведчаным і зацікаўленым. Ён расказаў мне гісторыю паскевічаўскага палаца, сабора, капліцы («Пара б ужо было зняць рыштаванні, зацягнулася рэстаўрацыя»), назіральнай вежы. Ля будынка зімовага саду (аб яго існаванні я нават не ведаў) затрымаліся даўжэй: абышлі будынак вакол, зазірнулі, любуючыся дзівоснымі заморскімі раслінамі, у закратаваныя вокны.

— Цікавейшая гісторыя гэтага саду, — казаў Іван Кірэевіч. — Не даўнейшая, а нядаўняя. Сад ацалеў у вайну. Выратавала яго, кажуць, жанчына, што даглядала яго і да вайны. На свой страх, дзе толькі магла, шукала-здабывала дровы, на сваіх плячах цягала іх сюды, каб абагрэць будынак, каб не вымерзлі дрэвы... Памёрла хутка па вайне. Спрабаваў адшукаць яе сляды, ды не ўдалося. А ўчынак больш чым гераічны. Трэба будзе пацікавіцца яшчэ...

Па прыступках спускаемся ўніз, да ракі. Патаптаўшыся колькі хвілін у гаманкой і варухлівай чарзе, сядаем на цеплаходзік — «адчуць Сож». У ніжніх салонах — ні душы, усе, нават з малымі дзецьмі, наверсе. Цеплаходзік з песнямі вырульвае на сярэдзіну ракі. Адсюль палац — на высокім, крутым беразе, у абсадзе старых, высачэзных дрэў — выглядае асабліва велічна і прыгожа.

— Ніштаваты сабе відок? Адчуваў граф прыгажосць? — Іван Кірэевіч кажа тое, не чакаючы адказу. — Дарэчы, адзін з упраўляючых графа Паскевіча пахаваны ў нашых Пакалюбічах. І легенда яшчэ пра яго ходзіць. Нібыта графіня купіла яго хлопчыкам у гаротнай пакалюбіцкай сям'і...

— Пакалюбічы? — перапытваю я. — Значыць, у кніжках гэта...

— Ага, Падлюбічы. А Старое Сяло — Стараселле, Мар'іна — Марыніна...

— Дык, значыць, Ваня Сырцоў — гэта...

— Пра гэта ў мяне дзеці часта пытаюцца. А дзе цяпер Санька, а што робіць Іван, а што з імі сталася... — У майго субяседніка і спадарожніка ўсмешка добрая і гарэзлівая. — Сёння ў мяне студэнтка адна была, з Мінска. Дыпломную піша. Дажыўся ўжо... Дык таксама: «Сырцоў — гэта вы? А Санька? А бабуля? А Няўмыка? Былі такія?» Што на гэта скажаш? Аналогіі нейкія, пэўныя прататыпы можна, вядома, адшукаць, але ж хіба ў гэтым справа?



**ЖУРАЎЛЁЎ Васіль Пракопавіч.** Літаратуразнаўца. Нарадзіўся ў 1931 годзе ў вёсцы Раздзел Магілёўскай вобласці. Мінскі дзяржаўны педагагічны інстытут імя А. М. Горкага скончыў у 1954 годзе. Кандыдат філалагічных навук, старшы навуковы супрацоўнік Інстытута літаратуры імя Я. Купалы АН БССР. Аўтар манаграфічных характарыстык творчасці Я. Маўра, Э. Самуйлёнка, І. Мележа ў «Гісторыі беларускай савецкай літаратуры», В. Дуніна-Марцінкевіча ў «Гісторыі беларускай дакастрычніцкай літаратуры» і інш.



Іван Сяркоў з адным са сваіх чытачоў.

ПІСЬМЕННІКІ І КНІГІ

# З ХЛОПЦАЎ ТЫХ, ЖЫВУЧЫХ

Сапраўды няёмка атрымалася. Ведама ж, недарэчы ў мяне тое вырвалася. Але ж... Добра разумеючы гэта, ведаючы, што ў Івана Кірэевіча расце двое сыноў (ладнаватыя ўжо хлопцы!), бачачы, што галава яго ўжо зусім сівая, я ўсё ж, гледзячы на яго, не магу не думаць пра тое, што перада мной... Ваня Сырцоў. Альбо Санька Макавей. Смешна, вядома, ды што зробіш, калі яно неадчэпнае, адчуванне гэта. Узнікла яно, канечне, не зараз, от на гэтым цеплаходзіку, а раней, калі чыталіся (з захапленнем, у адзін, як кажуць, прысест) кніжкі Івана Кірэевіча, але і зараз, пасля знаёмства з ім, не развеялася, а, наадварот, яшчэ больш умацавалася... Ды пра гэта — пазней. Спачатку хочацца вярнуцца на колькі гадоў назад, калі да соцень малых і дарослых чытачоў, у тым ліку і да мяне, так нечакана і так жадана-хораша прыйшоў удумлівы і сур'ёзны, вясёлы і дасціпны празаік Іван Кірэевіч Сяркоў...

Гэта было сапраўды нечакана: празаік дэбютаваў кніжкай, якая адразу ж знайшла шырокае прызнанне. Маю на ўвазе не толькі і, можа, не так тое, што аповесць «Мы з Санькам у тыле ворага» атрымала другую прэмію на рэспубліканскім конкурсе на лепшую кнігу для дзяцей.

Асабіста на мяне, паўтараю, яна зрабіла незвычайнае ўражанне. Калі я чытаў яе, у маёй душы ўзнікла і не прападала перакананне, што такая кніга не магла быць не напісана. Здавалася, што ва мне даўно жыло жаданне сустрэчы з ёй, і радасна было ад таго, што вось яна, перада мною, у маіх руках. За ёй паўставала дзяцінства, пачатак біяграфіі цэлага пакалення, зрэшты — майго пакалення.

Аповесць складаецца з паасобных навел. І зноў жа — мусіць, менавіта так, а не інакш яна павінна была напісацца. У кніжцы гаворыць памяць — памяць дзяцінства. І кожная з гэтых навел — як усплёск памяці, як выкладзеныя на паперу паасобныя, найбольш уражлівыя кавалкі яе шчодрых запасаў. Ды каб жа проста выкладзеныя! Разбуджаная памяць настроіла душу пісьменніка на тую адзіную хвалю шчырасці, непасрэднасці, непадробнага хвалявання, калі розум і сэрца прыходзяць у шчаслівую суладнасць між сабою і спараджаюць тое, што не можа не знайсці адпаведнага водгуку ў душы іншага чалавека.

Так, мне здаецца, нарадзілася аповесць І. Сяркова. Яна палоніць малога і сталага чытача менавіта гэтымі сваімі якасцямі — шчырасцю, непасрэднасцю, непадробнасцю пачуцця, што ідзе ад вялікага даверу пісьменніка да ўласнага жыццёвага, чалавечага вопыту. Поспеху аповесці ў чытача паспрыяла яшчэ і тое, што да ўсяго гэтага надта ж хораша далучылася народнаму здаровая і жыццядзейная сяркоўская весялосць і дасціпнасць. Гэтае святло, што выпраменьвае пісьменніцкая — то іранічна-гнеўная, то гарэзліва-бесклапотная — усмешка, дадае твору не толькі прыцягальнасці, але і змястоўнасці.

Гаварыць падрабязна пра аповесць «Мы з Санькам у тыле ворага» няма, бадай, патрэбы — пра яе пісалася ўжо нямала. Да сказанага дадам яшчэ толькі вось што. Багатая на самабытныя характары дарослых (чаго варты адзін вобраз бабулі!) і дзяцей, на трапныя і дакладныя дэталі і назіранні, аповесць дужа шмат гаворыць нам пра час, пра складаныя абставіны і акалічнасці суровай і трагічнай пары, урэшце — пра вытокі савецкага патрыятызму, пра нязломнасць і мужнасць нашага народа.

Да аповесці «Мы з Санькам у тыле ворага» на творчым рахунку І. Сяркова быў, бадай, толькі нейкі дзесятак—другі баек і гумарэсак. Тым большай неспадзяванкай можа падацца той поспех, які выпаў на долю яго першага буйнога твора. Але ўжо другая аповесць — «Мы — хлопцы жывучыя» — падобнага адчування не выклікала: поспех яе быў ужо, так сказаць, заканамерны і натуральны. Працяг хлапечай эпапеі (на гэты раз пасляваенны ўжо) атрымаўся, па агульным прызнанні, такім жа змястоўным і хвалюючым. (Дарэчы, «Мы—хлопцы жывучыя» былі ўдастоены першай прэміі на ўсесаюзным конкурсе на лепшы твор для дзяцей і юнацтва). Магчыма, гэта маё суб'ектыўнае ўражанне, але другая аповесць прыйшлася мне па душы больш, бадай, чым першая. Мне яна падалася больш стройнай, больш ашчаднай у адборы фактаў і сітуацый, а яшчэ — почырк празаіка стаў больш упэўнены. Карацей, пісьменніцкае майстэрства ўзрасло. «Рос» І. Сяркоў, калі можа так сказаць, і да першай сваёй кнігі. І калі яна паявілася ў нейкім сэнсе пазнавата (калі меркаваць па матэрыяле, яна магла быць напісана і раней), дык гаворыць гэта толькі за тое, што І. Сяркоў не спяшаўся (кніга выйшла на трыццаць дзевятым годзе яго жыцця) свядома, баючыся, магчыма, неасцярожным, не да канца выверанымі дотыкам сапсаваць вельмі дарагі для яго набытак уласнай памяці і душы. Пэўна можна сказаць адно: падступаўся да гэтага **свайго** матэрыялу І. Сяркоў не тады, калі рука вывела на паперы першы радок аповесці, а задоўга-задоўга да таго — і тады, бадай, калі, каўтануўшы фасолевых камоў, бегаў у бурках і бахілах у школу, і калі вучыўся, пасля сямігодкі, на падрыхтоўчых вайсковых курсах, і ў час афіцэрскай службы ў Савецкай Арміі, і ў гады працы ў рэдакцыі Гомельскай раённай газеты... Аповесцям «Мы з Санькам у тыле ворага» і «Мы — хлопцы жывучыя» ён аддаў, несумненна, вельмі шмат свайго асабістага, непрыдуманага. І таму, хоць Іван Сырцоў гэта не Іван Сяркоў, усё ж, гледзячы на пісьменніка, гаворачы з ім дома, у парку, на цеплаходзіку, я міжволі бачыў у ім то Івана Сырцова, то Саньку Макавея, — карацей, бачыў у ім аднаго з **тых, жывучых хлопцаў..**.

Зараз Іван Кірэевіч працуе галоўным рэдактарам Гомельскай студыі тэлебачання. Праца гэтая вельмі турботная, мітуслівая, не надта (як ён сам кажа) творчая, а больш адміністрацыйна-гаспадарчая. Яна забірае ў яго шмат дарагога часу. І, можа, па гэтай прычыне за апошні час творчы яго дробак не дужа багаты. Гэта—на думку самога Івана Кірэевіча. Думаецца, сказана тое было дарэмна, бо вось жа — яго ўласныя словы:

— Зрабіў сцэнарый тэлефільма. Па другой аповесці. Пра жывучых хлопцаў. Што там атрымаецца, пакуль невядома, да экрана яшчэ далёка... Пісаў яшчэ адну рэч. Аповесць. Але ўжо не для дзяцей. Напісалася многавата, ды не рашаюся каму паказваць...

Некалькі кавалкаў з аповесці (называецца яна пакуль што так: «Мае апошнія буслы») Іван Кірэевіч згадзіўся прачытаць. Слухаў я тыя старонкі з цікавасцю і асалодай. Усюды адчуваецца ранейшая пісьменніцкая ўвага да дэталі, да побыту, дакладнасць псіхалагічных характарыстык, уласцівая для яго жывасць апавядання. Шмат у творы і гумару—чыста сяркоўскага: незласлівага, светлага. Цікавым мне ўбачыўся вобраз старой Хоўры—простай вясковай кабеты-ўдавы, якая ў прадчуванні блізкага адыходу спрабуе нейкім чынам падвесці рахункі пражытага—нялёгкага, але сумленнага—жыцця.

Сказаў пра гэта Івану Кірэевічу. Ён памаўчаў, быццам збіраючыся з думкамі, але паўтарыў тое, што гаварыў раней:

— Хай паляжыць. Адчуваю, што не ўсё атрымалася так, як след. Пэўна, адной габлёўкай не абыдзешся, трэба будзе перапісаць. А пакуль—хай паляжыць. Каб крыху адысці ад яе, паглядзець праз пэўны час чужымі вачыма...

Пасля гэтых слоў я ўжо не рашыўся прасіць яго, каб даў адзін з раздзелаў у «ЛІМ» — пазнаёміць нашых чытачоў.

З той жа сціпласцю і шчырай чалавечай сарамлівасцю гаварыў пісьменнік і пра свае творчыя планы. Прызнаўся, што захапіўся гісторыяй Беларусі, найперш—гісторыяй роднай Гомельшчыны. (Гэта я адчуў. слухаючы яго расказ пра гісторыю будаўніцтва паскевічаўскага палаца).

— Сабраў нямала цікавага матэрыялу. У архівах, музеях. А ў шматтомнай «Гісторыі БССР» наткнуўся на адну мясціну, якая падказала задумку гістарычнай аповесці. Недзе з часоў Багдана Хмяльніцкага. З часоў трывожных і смутных. Хочацца стварыць вобраз тагачаснага беларуса—працавітага і свабодалюбівага, непакорнага і мужнага, бяспраўнага, але гордага, вясёлага і дасціпнага. А калі ўдасца тое зрабіць, дык, як кажуць, бог—бацька...

Што на гэта скажаш! Цалкам у духу Івана Кірэевіча! Ды я ўжо добра ведаю, што не так гэта, што ён ніколі не спадзяваўся на каго-небудзь, а з малых гадоў, з тых пор, калі быў «з Санькам у тыле ворага», сам адстойваў сваё права на жыццё, сам сцвярджаў сябе ў свеце і сярод людзей. А яшчэ, прыгадваецца, ёсць у кнізе «Мы —хлопцы жывучыя» такі раздзельчык: «Добра ж мне, што я Іван». Памятаюцца адтуль радкі: «А з тых гісторый, якія салдаты расказваюць, перабіваючы адзін другога, выходзіць так, што куды ні кінь—Іван і больш цягавіты, і больш працавіты, і больш жывучы, і хітрэйшы, і разумнейшы за фрыца». Гаварылася гэта ўвогуле пра Івана, дакладней—пра «рускага Івана». Так-то яно так, але ўсё ж мой субяседнік—таксама Іван. Дык, значыць, можна не сумнявацца, што ўсё задуманае будзе ім здзейснена, што чытачы яшчэ неаднойчы сустрэнуцца з новымі творамі пісьменніка.

Мікола ГІЛЬ.

З пошты ЛіМ-а

# У ГРОЗНЫМ 41-М...

Не было вады, перарвалася сувязь з фронтам, скончыліся боепрыпасы і медыкаменты, але гэты маленькі астравок у варожым акружэнні трымаўся да апошняга. Героі не здаваліся, героі не здаліся...

Аб гэтай сапраўды нечалавечай стойкасці і непахіснай веры савецкіх людзей расказвае спектакль Брэсцкага драматычнага тэатра «Брэсцкая крэпасць». Упершыню гераічную эпапею па п'есе К. Губарэвіча паставіў у 1953 годзе А. Міронскі. За спектакль тэатру была прысуджана прэмія Усесаюзнага Ленінскага камсамола. А зусім нядаўна ветэраны «Брэсцкай крэпасці», тыя, што амаль дзесяць гадоў назад расказалі са сцэны аб людзях бессмяротнай цытадэлі, для якіх вайна была выпрабаваннем на трываласць характару, на чалавечую годнасць, усхвалявана перажывалі яшчэ адно нараджэнне спектакля, пастаноўку якога ажыццявіў Г. Волкаў. Эстафету старэйшых прыняла моладзь тэатра, якая сёння перакана і палымяна гаворыць пра подзвіг, што стаў ужо гісторыяй.

Чым жа прыцягвае новае прачытанне тэатрам п'есы? Канечне, эмацыянальным настроем, страсным сцвярджэннем высокага прызначэння чалавека на зямлі. У ёй пануе дух непакорлівасці, невычарпальнага імкнення герояў да свабоды. Так, сцвярджае тэатр, вайна—гэта смерць сяброў, жорсткасць і забойства. Але тое, што было. не павінна паўтарыцца.

...У нядзелю 22 чэрвеня ў крэпасці быў адменены выхадны. Пакуль гэта толькі мера перасцярогі. У гарнізоне ўсё спакойна, але спакой гэты нейкі напружаны. Усе спрабуюць развесяліцца, а трывога расце.

Імкнецца здавацца спакойным і палкоўнік Ермашоў (артыст Б. Уласаў). Усяго адзін раз яго прыхаванае напружанне выплёскваецца вонкі — далажылі, што вораг падцягнуў артылерыю да граніцы. І Ермашоў раз'юшана крычыць: «Спыніць танцы!» Але ўжо праз імгненне ён зноў «набывае форму». На такіх, як Ермашоў Уласава, зямля трымаецца. Ён мудры і чулы, валявы і спакойны.

Грымнула бяда... І на сцэне зажылі зусім іншыя людзі—лютыя ў сваім справядлівым гневе, бескампрамісныя, таму што паўстала пытанне аб жыцці і смерці роднай краіны. Ім. адважным, суджана было ўвайсці ў бессмяротнасць.

Камісар Калеснікаў (арт. І. Мацкевіч) і яго жонка Надзя (арт. С. Нікančык) вучыліся ў педагагічным інстытуце, яны павінны былі стаць настаўнікамі, выхоўваць дзяцей, вучыць іх чалавекалюбству, а давялося ваяваць, забіваць.

У самую трагічную хвіліну адкрываецца гледачу каханне старшага лейтэнанта Пінчука (арт. Кастальцаў) і ваенурача Зорынай (арт. Т. Волкава). Як гімн іх нязбыўнаму каханню, гучыць песня «Свяшчэнная вайна». На нашых вачах адбываецца сталенне героя Ю. Газіева—Кукушкіна. «Свяшчэнная вайна» — гімн і гэтаму цудоўнаму, дужаму, адважнаму хлопцу, які дайшоў да вышэйшага разумення чалавечай місіі на зямлі — служыць людзям, паміраць за людзей.

Урачыста гучыць музыка, і ўзрушаная зала ўстае, аддаючы даніну павагі абаронцам Брэсцкай крэпасці.

І сёння спектакль «Брэсцкая крэпасць» нагадвае: фашызм—гэта не толькі забойствы, кроў, насілле, але і вялікая хлусня. Яна атручвае свядомасць людзей, заклікае знішчаць чалавечнасць у чалавеку. Аб гэтым нельга забываць!

Э. АГРАНОЎСКАЯ.

Брэст.

# ПРЫНЯТЫ Ў САЮЗ ПІСЬМЕННІКАЎ



**МАСАРЭНКА Алесь Герасімавіч.** Празаік. Нарадзіўся ў 1938 годзе ў вёсцы Ходараў Магілёўскай вобласці. Член КПСС. Беларускі дзяржаўны універсітэт імя У. І. Леніна скончыў у 1966 годзе. Загадчык рэдакцыі дзіцячай літаратуры выдавецтва «Беларусь». Выдаў аповесць «На бабровых тонях» (1971).



**МІХАЛЬЧУК Сяргей Апанасавіч.** Празаік, перакладчык. Нарадзіўся ў 1925 годзе ў вёсцы Скабін Мінскай вобласці. Беларускі дзяржаўны універсітэт імя У. І. Леніна скончыў у 1951 годзе. Выдаў аповесць «Сто прыгод за адзін дзень» (1963), зборнік апавяданняў «Паштальён, шырэй крок» (1968). Пераклаў каля дваццаці кніг з рускай і ўкраінскай моў.



**ФЕДЗЮКОВІЧ Мікола Мікалаевіч.** Паэт. Нарадзіўся ў 1943 годзе ў вёсцы Гутава Брэсцкай вобласці. Член ЛКСМБ. Літаратурны інстытут імя А. М. Горкага скончыў у 1970 годзе. Літаратурны супрацоўнік газеты «Чырвоная змена». Выдаў зборнікі «Зямля-магніт» (1968) і «Мілавіца» (1971). Друкаваўся ў калектыўных зборніках «Сердцем приказано» (1965), «Слава Арміі Савецкай» (1971) і інш.



**ЯЛУГІН Эрнест Васільевіч.** Празаік. Нарадзіўся ў 1936 годзе на станцыі Асінаўка Віцебскай вобласці. Беларускі дзяржаўны універсітэт імя У. І. Леніна скончыў у 1962 годзе. Карэспандэнт штотыднёвіка «Літаратура і мастацтва». Аўтар аповесцей «Камни Млечного пути» (1969), «Мстиславцев посох» (1971).

У другім вершы «Грабежнік» Я. Купала з вялікім майстэрствам выкрывае чалавеканенавісніцкую сутнасць нямецка-фашысцкіх захопнікаў, паказвае, што яны прынеслі народам Еўропы галечу, смерць і рабства. Заклікаючы падняволеныя народы да грознай помсты, да гераічнай барацьбы, пясняр мужнымі, вострымі, як меч, словамі запальваў гневам сэрцы людзей, якія апынуліся на акупіраванай тэрыторыі.

Вялікай мастацкай сілы дасягнуў Я. Купала ў вершы «Беларускім партызанам», напісаным у Чарнарэцкім лясніцтве пад Масквой 19 верасня 1941 года. Ён быў змешчан у многіх партызанскіх газетах, выдаваўся асобнымі лістоўкамі, перапісваўся ў сшыткі і блакноты, завучваўся напамяць. Словамі з гэтага верша пачыналіся артыкулы многіх газет народных мсціўцаў і падпольшчыкаў. Звяртаючыся да беларускіх народных мсціўцаў, паэт заклікаў:

**Партызаны, партызаны,**
**Беларускія сыны!**
**За няволю, за кайданы**
**Рэжце гітлерцаў паганых,**
**Каб не ўскрэслі век яны.**

У кнізе «Партызанскія агні» Г. Шчарбатаў расказвае, як камсамольска-маладзёжны атрад імя Гастэлы, які па загадзе Беларускага штаба партызанскага руху ў канцы лета 1942 года накіраваўся ў глыбокі тыл ворага, у адной з беларускіх вёсак трапіў у школу. Паміж камісарам атрада і настаўніцай школы адбылася наступная гутарка:

— «Што выкладаеце? — запытаў камісар.

Настаўніца павольна дастала з унутранай кішэні курткі нейкую паперку і, ледзь усміхнуўшыся, падала яе камісару.

Панцялеенка разгарнуў паперку і здзівіўся: у яго руках была зводка Савецкага інфармбюро за 30 жніўня.

— Гэта галоўны прадмет, — задаволеная зробленым эфектам, сказала настаўніца. — Ён часта замяняе нам і гісторыю, і геаграфію.

Яна паказала нам даваенныя савецкія падручнікі.

— Праўда, матэрыял прыходзіцца паднаўляць. Нядаўна ўсім класам вывучылі новы верш Янкі Купалы.

— Які?

Настаўніца дастала з кішэні новую паперку і падала мне надрукаваны на машынцы верш Купалы «Беларускім партызанам». Гэты верш мы ведалі яшчэ ў Маскве, але з якім захапленнем я прачытаў яго палымяныя радкі тут, ужо на роднай зямлі».

Былая партызанка К. Загорцава, якая зараз працуе планавіком-эканамістам на Гродзенскай швейнай фабрыцы, прыгадвае, што ў суровы час барацьбы з гітлераўскімі акупантамі яна разам з іншымі партызанамі падрыхтавала літаратурна-мастацкі мантаж, прысвечаны роднай Беларусі. У аснову яго былі пакладзены вершы Янкі Купалы: «Беларускім партызанам», «Паўстаў народ», «Зноў будзем шчасце мець і волю».

Аб росце партызанскага руху на Беларусі, аб папаўненні партызанскіх атрадаў тысячамі і сотнямі тысяч адважных патрыётаў Я. Купала расказвае ў артыкуле «Партызанскі ўдар», змешчаным у газеце «Красный флот» 10 кастрычніка 1941 года. Размову аб патрыятызме і стойкасці беларускіх народных мсціўцаў Я. Купала вядзе не ў агульным плане, як гэта было ў папярэдніх артыкулах, напісаных у пачатку вайны, ён паказвае баявую дзейнасць асобных камандзіраў буйнейшых партызанскіх атрадаў — Ціхана Бумажкова, Фёдара Паўлоўскага, сыноў і дачок Ленінскага камсамола — Валодзі Кіркаўца, Валянціны Герасімавай, Ганны Шубенак, Яўгена Зялінскага, Паўла Страпко і многіх іншых.

У калектыўнай кнізе «Советским детям», выдадзенай у 1941 годзе, побач з творамі А. Талстога, В. Васілеўскай, С. Маршака, І. Эрэнбурга, А. Гайдара, быў змешчан нарыс Я. Купалы «Аб народнай вайне». Кніга ў тым жа годзе была перавыдадзена, а ў 1942 годзе яна выйшла ў Баку на азербайджанскай мове.

Жывучы ў Маскве, Я. Купала працаваў шмат і напружана, нягледзячы на тое, што ўмовы былі неспрыяльныя і цяжкія. Акрамя артыкулаў, нарысаў і вершаў, ім у гэты час была напісана брашура «Народ-мсцівец», выдадзеная масавым тыражом на рускай мове ў 1941 годзе ваенным выдавецтвам НКА СССР. Ужо адзін той факт, што брашура была ўключана ў серыю выданняў «Бібліятэка чырвонаармейца», выразна сведчыць аб яе прызнанні. У пачатку 1942 года брашура была разаслана па франтавых воінскіх часцях і партызанскіх атрадах, якія дзейнічалі на Беларусі.

У канцы 1941 года ў Маскве выйшаў на рускай мове невялічкі зборнік Я. Купалы «Стихи о Родине». Ён адкрываўся купалаўскім артыкулам «Германскі фашызм — злейшы вораг беларускага народа». Затым ішлі такія вершы паэта, напісаныя ў даваенны час, як «Хвалююцца морскія хвалі», «Камсамолу», «Сыны», «Выпраўляла маці сына», «Як у госці сын прыехаў», «Алеся», «Украіна», «Грузія», «Старыя акопы» і іншыя. Зборнік вызначаўся сацыялістычным гуманізмам, камуністычнай ідэйнасцю і прынцыповасцю, узбройваў чытачоў высакароднымі пачуццямі савецкага патрыятызму, прывіваў нянавісць да чужынцаў-захопнікаў.

Свае артыкулы і вершы Я. Купала друкаваў у газетах «Правда», «Известия», «Красная звезда», «Красный флот», а таксама ў беларускім франтавым і партызанскім друку. Такія артыкулы, як «Узнялася Беларусь», «Не будзе беларус нявольнікам нямецкіх баронаў», «Германскі фашызм — злейшы вораг беларускага народа», «Узнімайся, народ мой, на вялікую расплату!» і іншыя, сталі дакументамі эпохі, увайшлі як каштоўнейшы ўклад у скарбніцу савецкай публіцыстыкі.

У кастрычніку 1941 г. Я. Купала пераязджае з Масквы ў гарадскі пасёлак Печышчы, што непадалёк ад Казані. Нягледзячы на дрэнны стан здароўя, ён не спыняў актыўнай грамадскай, літаратурнай і навуковай дзейнасці. Яго часта можна было бачыць на пасяджэннях Саюза пісьменнікаў СССР, усеславянскага антыфашысцкага камітэта і Беларускай акадэміі навук. Купала многа да-

**(Заканчэнне на 14 стар.)**

Працуючы ў архіве вядомага савецкага паэта С. М. Гарадзецкага і збіраючы матэрыялы аб яго сувязях з Арменіяй і армянскай культурай, мне ўдалося выявіць цікавыя матэрыялы—рукапісы Янкі Купалы і Якуба Коласа.

З Я. Купалам і Я. Коласам Гарадзецкі пазнаёміўся ў 30-я гады, калі пачаў перакладаць іх паэтычныя творы.

Дзелячыся сваімі творчымі поспехамі, Колас пасылаў Сяргею Мітрафанавічу рукапісы вершаў і артыкулаў — яны і зараз захаваліся. Гэта вершы «Салар», «Чымган», «Чую голас», «Камсамольцам», «Савецкім народам», «Жыве між нас геній», а таксама некалькі вершаў, прысвечаных самому Сяргею Мітрафанавічу.

У архіве С. Гарадзецкага захаваліся таксама два артыкулы Коласа, адзін — «Слава табе, Чырвоная Армія» прысвечаны перамозе Чырвонай Арміі над фашызмам у 1945 г., а другі — М. Горкаму (абодва з'яўляюцца варыянтамі ўжо вядомых артыкулаў). У 1948 годзе Я. Колас паслаў Сяргею Мітрафанавічу ў адным з пісьмаў артыкул пра выдатнага акцёра-трагіка — Міхоэлса. У архіве С. Гарадзецкага захоўваюцца і цікавыя фатаграфіі Я. Коласа.

Ірма **САФРАЗБЕКЯН.**

## СЯРГЕЮ ГАРАДЗЕЦКАМУ

**Што ні кажы, а мы сябры;**
**І я стары, і ты стары,**
**І ты адзін, і я адзін —**
**Куды ні кінь, усюды клін.**
**Наш лёс — глядзець ужо назад,**
**Што скажаш новага, мой брат!**

**Адшумелі вёсны,**
**Адзвінелі песні,**
**Усе сатканы кросны —**
**Маладосць не ўскрэсне.**

**Няхай так, ды коса**
**Вешаць нам не трэба:**
**Шлях многагалосы,**
**Ласкі поўна неба.**

**Якуб КОЛАС.**
24.III.1947 г.

## ПАЖАДАННІ ДОКТАРУ-ПАЛЯЎНІЧАМУ

**Мой друг, мой доктар чарадзей,**
**Прымі ты маё слова,**
**Бо шчырае яно і адмыслова,**
**Так не казаў яго раней.**

**Дык шчырае з удзячнасцю святой**
**Прымі, прымі яго яшчэ раз:**
**Няхай ганчак бяжыць праз верас**
**І гоніць зайца пад стрэл твой.**

**То будзь жа лёгкая рука,**
**Малітва ж радасці ўся поўна!**
**Няхай Сяргееўна ці Пятроўна**
**Скубе глушца, цецерука.**

**А мне — хай споўняцца жаданні**
**Крыніцаю падмацавання.**

**Якуб КОЛАС.**
3.XII.1954 г.

**НАС ПАЗНАЁМІЛА** дзівосная казка Сент - Экзюпеdefine «Маленькі прынц». Нэла Шчасная рабіла вокладку кнігі і, на аснове малюнкаў самога Экзюперы, знаходзіла для афармлення свае ўласныя фарбы.

Нашы погляды на гэты твор поўнасцю супадалі. Я з пачуццём незвычайнай радасці перакладала казку на беларускую мову; аказалася, што маленькі прынц адзін з любімых герояў Н. Шчаснай. Яна часта малявала яго проста так, для сябе. А сваю малую дачушку, з яе адухоўленым тварыкам, называе Маленькім прынцам...

Н. ШЧАСНАЯ. Вясна.

# НЯЎРЫМСЛІВАЯ ДУША МАСТАКА

Захапленне мастацтвам прыйшло ў маленстве.

У мінскім Палацы піянераў Нэлу з прыхільнасцю сустрэў мастак, педагог па прызванні, Сяргей Пятровіч Каткоў.

З уласнай касы змайстравала Нэла першы пэндзаль. Праўда, сімвалічна?..

Першы настаўнік. Першыя ўдачы. Каткоў адразу прыкмеціў незвычайныя здольнасці Нэлы Шчаснай. Перш за ўсё, яго ўразіла ўпартая цярплівасць вучаніцы: яна магла доўгімі гадзінамі перарысоўваць — да самай дробнай рысачкі— гравюры да твораў Шэкспіра, Байрана.

«Без працавітасці самы арыгінальны талент заглухне», — гэтыя словы Сяргея Пятровіча заўсёды помніць Н. Шчасная, чые работы здзіўляюць цяпер сваёй самабытнасцю, арыгінальнай творчай манерай.

З удзячнасцю ўспамінае Нэла сваіх настаўнікаў — вядомых мастакоў В. Цвірко, П. Крохалева, у якіх вучылася ў Мінскім мастацкім вучылішчы.



Н. ШЧАСНАЯ. Завіруха.

У 1961 г. яна скончыла Ленінградскі мастацкі інстытут імя Рэпіна. І ў інстытуце былі выдатныя педагогі — Арэшнікаў, Мыльнікаў.

Нэла жыла некалькі год у Сярэдняй Азіі. Працуючы мастаком-архітэктарам, яна вывучала жывапіс і разьбу па дрэве старажытных мастакоў. Жыла далёка ад Беларусі і сэрцам цягнулася да мясцін, дзе нарадзілася, расла, дзе навучылася разумець хараство прыроды.

Мне ўяўляецца Н. Шчасная, перш за ўсё, чалавекам нястомнага пошуку і паэтам у жывапісе.

Можна доўга глядзець на карціны «Ля вогнішча», «Вясёлка», «Пад сонейкам» і кожны раз адкрываць у іх штосьці новае.

Дзяўчына сядзіць ля вогнішча. Спачатку здаецца, што яна марыць. Гэтаму спрыяюць агульны настрой, водбліск вогнішча, задуменныя вочы дзяўчыны. Заўсёды ж каля агню прыходзіць да чалавека летуценны настрой.

Потым прыкмячаеш над галавой дзяўчыны, на заднім плане, два мужчынскія твары. І пачынаеш уяўляць, што тут не толькі дзявочая мара, а глыбокі роздум. Магчыма, яна думае пра барацьбу дабра са злом, шчасця з няшчасцем...

А, можа, гэта роздум пра першае дзявочае каханне? І гэтыя два вобразы за яе плячыма, як два вятры ў вершы Шчыпачова «Бярозка»? А яна «кому-то третьему верна...» Карціна настройвае на роздум, ты зноў вяртаешся да яе, зноў глядзіш і думаеш аб нечым сваім.

У гэтым сіла мастака.

Карціна «Вясёлка» — адвечная песня мацярынству. Жанчына прытуліла да сябе дзіця — сваё сонейка, каб ніхто яго не забраў, не пакрыўдзіў. Вясёлка фарбаў, вясёлка пачуццяў.

Па сваёй блізарукасці, я люблю разглядаць карціны зблізку, насуперак агульнапрынятым «правілам».

Аказваецца, уся «Вясёлка» складаецца з маленькіх цэнтраў, ракавінак, кропачак: вакол іх ідуць арбіты і ўсё гэта пераліваецца тонкімі колерамі, адценнямі.

Не бяруся судзіць аб мастацкай тэхніцы.

Калі чытаеш добрую паэзію — зусім не думаеш аб тэхніцы вершаскладання.

Вось гэтак і тут!

Вельмі ўдаюцца мастаку жаночыя вобразы: «Снегірок» — жанчына, зацярушаная першым снегам, першы іней на валасах і ярка-чырвоны агеньчык — снягір на галінцы, нібыта сэрца жанчыны;

«Капеж» — прыцягвае рамантычным настроем, юнацкай чысцінёй пачуццяў;

«Адзінокая» — дзве жоўтыя талеркі на стале нема галосяць разам з жанчынай па тым, другім, якога няма за сталом. Карціна быццам сатканая з беларускіх снягоў, туманаў, посцілак.

І вельмі запамінаецца «Аўтапартрэт»: прывабная жаноцкасць, думы, перажыванні, пераадоленне смутку. І зноў — сняжынкі, трапятанне ў жывапісе.

Талент Н. Шчаснай неяк асабліва сучасна, новымі гранямі раскрываецца ў графіцы.

Серыя «Папараць-кветка», дзе адчуваецца вялікая любоў да беларускай прыроды, глыбокія па думцы работы «Паэт», «Завіруха» і, нарэшце, «Адуванчык», які кранае душу сваёй безабароннасцю, адухоўленасцю.

Няўрымслівая душа мастака-шукальніка, асабістыя адносіны да кожнай тэмы востра адчуваюцца ў серыі «Вайна».

Вось жанчына плача над забітай птушкай. Але сціснуты кулак жанчыны — сведчанне яе мужнасці і волі да перамогі.

«Марыя Андрэева ў 1944 г.» — партрэт загінуўшай кулямётчыцы. Адкрыты, ясны твар, сур'ёзны, бясстрашны позірк: дзяўчына глядзіць праз фіранку з кулямётных стужак. У гэтай дэталі — свой, глыбокі падтэкст. І разам з мастаком ты адчуваеш востры боль у сэрцы за тых, хто не вярнуўся з вайны...

Касмічная «Рука Сусвету» чымсьці блізкая да Чурлёніса, але са сваім бачаннем свету.

Паэтычнае, зоркае вока мастака адчуваецца ў афармленні кніг для дзяцей.

Выходзіш з залы Саюза пісьменнікаў, дзе сабраны работы Н. Шчаснай, з адчуваннем глыбокай удзячнасці да самабытнага мастака, дэвіз якога «Ніколі не супакойвацца, не задавольвацца дасягнутым. Пошук і толькі пошук!»

**Эдзі АГНЯЦВЕТ.**

Ул. ДАМАШЭВІЧ



**Урывак з аповесці**

# АПОШНІЯ ДНІ ВАЙНЫ

НАД БЕРЛІНАМ павіснуў дым. Ужо некалькі дзён людзі не бачылі сонца. Яно хавалася ў хмарах. Дым валіў клубамі дзень і ноч. Ноччу ў дадатак над горадам стаяла злавеснае чырвонае зарыва. Малюнак гэты быў страшны сам па сабе. Гарэла і ішло прахам чалавечае жытло, марна прападаў плён працы мільёнаў людзей. Кліменак глядзеў на ўсе разбурэнні, і ў яго ўвесь час балела душа — за простых людзей, хоць сабе і немцаў. А іншы раз прачыналася злараднасць: вось вам, пакаштуйце і вы таго самага, што рыхтавалі нам. Той самы «тайфун», што вы кіравалі на Маскву, сёння прыйшоў да вас, у Берлін. Той, хто пачынаў гэту гістарычную бойню, і ў сне не сніў, што можа такое адбыцца. Вось няхай цяпер палюбуецца, хай скажа хоць сам сабе, які ён быў плоскі, нікчэмны, апошні дурань у палітыцы, калі лічыў, што такую несправядлівую вайну, як гэтая, немцы могуць выйграць.

Тайфун, страшэннай сілы ўраган, бушаваў у нямецкай сталіцы, выганяючы з самых заўзятых гітлераўцаў дух ваяўнічасці і веры ў мудрасць свайго фюрэра.

Зямлю калацілі выбухі цяжкіх бомбаў, дальнабойных снарадаў, якія цяпер ляцелі ў цэнтр. На Сілезскі вакзал прыйшла па чыгунцы наша крапасная артылерыя буйнага калібру і цяпер дзень і ноч вяла артналёты па ўрадавых кварталах.

Крок за крокам, няўмольна ішлі нашы войскі наперад, з кожным днём звужаючы жалезнае кола ля нямецкай сталіцы. Прыгарад Кёпенік ужо застаўся ззаду. Цяпер артылерысты палкоўніка Кліменка ўступілі ў самае пекла: яны ў «высокіх» кварталах вядуць вулічныя баі, ідуць побач з пяхотай. Артпалкі разбіты на дывізіёны і прыдадзены пяхотным батальёнам, узмоцнены танкамі. Цяпер яны ідуць разам, поплеч.

Адпаведна з гэтым і штабы пасоўваліся за сваімі часцямі, выбіраючы сабе ўцалелыя дамы і ўладкоўваючыся як найлепей — каб была надзейная сувязь, каб і абарона на выпадак чаго не падвяла, каб і бачыць сёе-тое льга было, бо спадзявацца толькі на слых — занадта мала ў такім пекле, як цяпер Берлін.

Кліменка нечага выклікаюць у штаб дывізіі. Ужо так і ведай: калі што важнае, то ніколі па тэлефоне не скажа камдыў Сакалоў, любіць выпрабоўваць Кліменкава цярпенне. Добра, калі штабы стаялі побач, а цяпер генерал недзе на Сілезскім вакзале, вунь колькі трэба ісці, аб праездзе на машыне няма чаго і думаць: вуліцы завалены, усюды страляніна, не ведаеш, дзе свае, а дзе чужыя. І гэтага няма на карце горада, той карце, што ляжыць у Кліменкавым планшэце.

Разам з Кліменкам ідзе яго верны страж і ахоўнік кухар Мельнік, якога ўсе называюць проста Іван. Пасля малдаўскай «эпапеі» Іван неяк заціх, больш не асмельваўся пускацца на ўсякія авантуры. Пэўна ж, не кожны можа зрабіць правільны вывад са сваёй няўдачы, але што датычыць Івана, то ён быў менавіта такі разважлівы чалавек. Цяпер ён ні на крок не адставаў ад свайго начальніка, трымаючы аўтамат напагатове.

Вуліца, па якой яны ішлі, насіла сляды нядаўняга бою. Пахла гарам, бітаю, перацёртаю ў парашок цэглаю. Часам, калі ўніз апускаўся вецер, цягнула трупным пахам. Вуліца была засыпана шклом, пакрышанаю пустацелаю цэглай. Дрэвы, што раслі каля тратуараў, ледзь не ўсе былі спілаваны на абшыўку траншэй ці на перакрыцце сховішчаў, галіны валяліся пад нагамі, патрушчаныя гусеніцамі танкаў, артылерыйскіх колаў.

— Ну і пэкло, — казаў час ад часу Іван і ўсё азіраўся, каб не прагледзець якое небяспекі.

Але пекла гэтае, ужо трохі астылае, было нішто ў параўнанні з тым, у якое яны трапілі праз некалькі хвілін ходу. Тут яшчэ ішоў бой. Уся вуліца была задымлена, нібы сюды, у горад, прыйшоў ранішні балотны туман.

Ледзь толькі яны павярнулі за рог новае вуліцы, як да іх падбег невысокі вусаты сяржант у запыленай гімнасцёрцы і сказаў хрыплым голасам:

— Тут небяспечна! Зараз мы выкурым фрыца, а вы пастойце ў гэтым пад'ездзе...

— А што там такое? — спытаў Кліменак.

— Ды дзве гарматы закапаны на тратуарах.

Нашы дзве гаўбіцы таксама стаялі на тратуарах, прыціскаючыся да самых дамоў. Яны разпораз стралялі, пад сілай аддачы ад'язджаючы назад метраў на пяць. Артылерысты зноў ставілі іх на месца, падпраўлялі наводку і білі. Нямецкія гарматы адказвалі радзей. Снарад са свістам і выццём пралятаў па вуліцы і ўразаўся дзе-небудзь у дом злева ці справа, падымаючы цэлыя клубы дыму і цаглянага пылу, ад якога скрыпела на зубах і казытала ў носе. Ветру зусім не было, пыл трымаўся доўга. Ён зусім сляпіў нерухомыя, закапаныя ў зямлю нямецкія гарматы, у той час як нашы артылерысты маглі ў любы час памяняць пазіцыю.

Пакуль там ішла дуэль, Кліменак у пад'ездзе не траціў марна часу: дастаў з планшэта карту, вызначыў сваё месца на ёй, прыкінуў, колькі яшчэ трэба часу, каб дабрацца да Сілезскага вакзала: калі вось гэтак, з прыпынкамі, то давядзецца ісці гадзіны дзве. За гэты час ён, Кліменак, можа ўжо там і не будзе патрэбны... Але нічога не зробіш, трэба цярпець.

Страляніна між тым заціхла, пачуліся цяжкія крокі па бруку, зноў паказаўся той самы сяржант з вусамі. Ён сказаў, што дарога вольная, яны выслалі разведку, якая хутка вернецца.

— Толькі асцерагайся, бо ў дамах могуць яшчэ сядзець снайперы або фаўстнікі.

Ля гармат на тратуары перавязвалі салдата, параненага ў галаву. Ён сядзеў на станіне, твар увесь пасінеў. Свежы белы бінт над правым вокам на ілбе ўвесь час набухаў крывёю, і санітарка з сумкай цераз плячо клала на гэтае месца вату і ўсё разматвала бінт.

— Асколкам, — растлумачыў сяржант. — Наш лепшы наводчык...

Вуліца вывела да ракі. Тут нават дыхалася вальней, паветра было чысцейшае, бадзёрыў халадок рачное ранішняе свежасці. Яны падышлі да гранітнага высокага парапета, нават трохі пастаялі пры вадзе, любуючыся на люстраную роўнядзь ракі, на якой не было жывое душы.

— Ото ж заковалы річку в камэнь, — сказаў Іван, пацягнуўшы сваім шырокім носам. — Як вона, бідна, шчэ жывэ?

Яны пайшлі па набярэжнай. Іван усю дарогу нешта мармытаў сам сабе пад нос: то яму штосьці не падабалася, і ён гэта лаяў, то хваліў. Раптам над самай вадою праляцелі два нашы штурмавікі, аглушаючы ўсё жывое: здавалася, во зараз рассыплюцца дамы пры рацэ.

— Ось швыдко ўлуп'яць фрыцам, — мармытаў Іван, праводзячы позіркам самалёты.

Вуліцы сталі шырэць, даўжэць і выпрамляцца. На пераходзе праз транспартную магістраль яны ўбачылі нечакана наш танк «Т-34», які праламаў памост і завіснуў. Машына правалілася кармой і цудам засела на слупах-апорах, а ствол гарматы пазіраў у самы зеніт, нібы танк збіраўся страляць па самалётах. Экіпажа ўжо не было, няйначай машына засела тут учора ці сёння ноччу.

— Ну трэба ж, лышэнько мое, — узмаліўся Іван, гледзячы на гэты цуд. — І від зэмлі одірвався, тай нэба не достав...

Каб не Іван, то Кліменак мог бы і засумаваць у такой дарозе, а так ён і сам часамі дадаваў штонебудзь да простых, але трапных сялянскіх разважанняў.

Кліменак глянуў на гадзіннік: было чвэрць на сёмую, яны ўжо каля гадзіны блукалі па каменным лабірынце.

— Хутчэй, браце Іване, а то спознімся.

І Кліменак паскорыў крок. Іван сяды-тады надбягаў нават трушком, каб не адстаць. Толькі яны сышлі з перакіднога моста і паглыбіліся ў нейкую новую вуліцу з няроўнымі, рознай велічыні дамамі, як на іх з вузкага пад'езду выскачылі два нямецкія салдаты. Яны былі, можна сказаць «улегцы», не так, як звычайна абвешаныя ўсім рыштункам — у іх цяпер былі толькі вінтоўкі і на папружках віднеліся патранташы. Кліменак нават не паспеў схапіцца за пісталет, як Іван тут жа паласнуў па іх з аўтамата. Адзін адразу ўпаў, а другі кінуў вінтоўку, павярнуўся і знік у пад'ездзе.

Вуліца завярнула ўправа, дамы сталі вышэйшыя, некаторыя стаялі нават зусім цэлыя — некранутыя ні агнём, ні снарадамі. Сярод вуліцы стаяў абгарэлы нямецкі грузавік. Лабавое шкло ўсё было пастраляна аўтаматнаю чаргою: віднеліся круглыя дзірачкі з промнямі-трэшчынамі ва ўсе бакі. Здаецца, на сядзенні нехта ляжаў... Побач на шэрай брусчатцы вялікая чорная пляма, нешта гарэла, мо разліты бензін ці масла...

— От жэ нагнала його нэчыста сыла, — сказаў сам сабе Іван, і Кліменак здагадаўся, што чалавек яшчэ не вытравіў з душы таго немца, якога забіў нядаўна — мо першага за ўсю вайну, ды і той сам наляцеў. Ды што, Іван цяпер пра яго да самай смерці не забудзе...

Яшчэ здалёк Кліменак заўважыў на вуліцы сілуэт нашага танка. Гэта быў магутны цяжкі «ІС». Ён стаяў на самым тратуары, прыціснуўшыся да дома, як бы чакаючы зручнага моманту, каб кінуцца ў атаку.

«Трэба спытаць у танкістаў, ці ачышчана дарога ад немцаў да Сілезскага вакзала,—узрадаваўся Кліменак. — Тут ужо не так і далёка, яны павінны ведаць...»

Ён падышоў да танка, усе люкі ў машыне былі зачынены, і ён пастукаў планшэткай па лабавой вадзіцельскай накрыўцы люка.

Раптам нешта як бы прасвістала зусім побач, зямля здрыганулася пад Кліменкам, уздыбілася і стукнула яму па галаве. Краем свядомасці ён улавіў, што ўзарваўся танк, але ад чаго, з якой прычыны — ён ужо не паспеў падумаць: усё прапала. Забыццё, здаецца, было зусім кароткае — ён пачуў, што яго катурхае Іван, стоячы перад ім на каленях. Ён плакаў, як дзіця, без канца паўтараючы:

— Таварыш палкоўнік... Таварыш палкоўнік... Ачніцеся... Ачніцеся... Гэта я, Іван... Ачніцеся...

Кліменку было лёгка і смешна ад гэтага ўмольнага Іванавага голасу, а потым усё стала вяртацца да яго свядомасці... Нешта ўзарвалася, ён ляжыць на тратуары, гімнасцёрка мокрая... Але не ад крыві. Здаецца, Іван адліваў яго вадою, бо і твар таксама мокры. Чорт вазьмі! Танк цэлы, дом перад імі метраў за пяцьдзесят ці болей увесь дыміцца, густы пыл, змешаны з дымам, паволі выпаўзае на вуліцу.

— Што тут такое? — пытае ўрэшце Кліменак. Голас у яго слабы, ён ледзь хрыпіць.

— О, хвала богу! — закрычаў Іван радасна.— Я думаў — біда! Хвала богу! — І ён пачаў выціраць рукавом сабе твар. — Та цэ ж хваўстнік, хай на його лыхо, хай на його...

У Кліменка яшчэ звінела ў вушах, у вачах лёталі чорныя матылі, мітусіліся, як камары на дождж. І цела было такое чужое, цяжкае, што не скрануцца з месца.

Да іх падышлі два танкісты ў шлёмах, у чорных камбінезонах. Адзін з іх прысеў на кукішкі перад Кліменкам, узяў яго за руку, памацаў пульс.

— Поўны парадак, таварыш палкоўнік. — І паказаў белыя зубы. — Нам пашанцавала — і вам, і нам... Фаўстнік прамазаў, а мы яму ўляпілі акурат. — І ён паказаў рукою туды, дзе ўсё яшчэ клубіўся чырвона-буры дым. — Мы паехалі, таварыш палкоўнік, будзьце здаровы. — І ён прыклаў смуглую далонь да шлёма, знік у люку.

Тут жа запрацаваў матор, машына ажыла і, пастукваючы гусеніцамі па цвёрдых плітах тратуара, танк пасунуўся наперад.

Толькі цяпер Кліменак успомніў, што не спытаў у танкістаў пра дарогу на Сілезскі вакзал.

Іван між тым знайшоў Кліменкаву фуражку, якую выбухам адкінула метраў на дзесяць, а планшэтка дык тая зусім апынулася на балконе другога паверха.

Ах, чорт! Толькі цяпер да Кліменка дайшло, у які пераплёт ён трапіў.

І — галоўнае — як лёгка, як шчасліва з яго выблытаўся. Не толькі галава, нават шапка цэлая.

— Так што будэмо робыты? — спытаў заклапочана Іван, чухаючы патыліцу і збіваючы сваю прапацелую пілотку на самы лоб. — Мо вы тут адын пабудтэ, а я скокну ў штаб та вазьму машыну? Як вы?

Кліменак усміхнуўся.

— Дзякую, Іване... Мо пойдзем разам?

Іван падхапіў свайго начальніка пад пахі, памог устаць. Ногі ў Кліменка яшчэ дрыжалі, былі слабыя, але ў целе ўжо адчувалася сіла, галаву перастала вадзіць у бакі, святлела ў вачах. Кантузія праходзіла.

Кліменак з Іванам паволі вырушылі ў дарогу. Іван злёгку падтрымліваў свайго начальніка, а той усё больш адчуваў у сабе сілы і ўжо добра крочыў па тратуары, абмінаючы паваленыя дрэвы, перакуленыя машыны, трупы салдат. Тут, сярод гэтага пекла, сярод разбурэння і смерці, Кліменак адчуў ясна, як ніколі раней, прывабнасць, хараство жыцця, яго магутную сілу росту, размнажэння, цвіцення... Не, што ні кажы, а жыццё — цудоўная штука, і асабліва яно дарагое тады, калі яго ў цябе адбіраюць...

Чамусьці ўспомніўся Кліменку той сон, які сніў ён яшчэ ва ўкраінскім стэпе, калі адступаў да Дона. Доўга пасля таго ён помніўся і стаяў у памяці: калі што-якое, калі дыхне смерць у твар, зазірне ў вочы — адразу яго ўспамінаў, а потым патрохі стаў забываць. Ці да сноў, ці да дробных прароцтваў і прымхаў, калі тут такія клопаты, што няма часу падумаць і пра што-небудзь важнейшае?

— Слухай, Іване, ты верыш у сны?

Іван падазрона глянуў на Кліменка, мо нават падумаў, што той ужо ненармальны.

— Вы сур'ёзна, таварыш палкоўнік?

— А як ты думаў? Сур'ёзна!

Іван збіў пілотку на патыліцу.

— Як вам сказаты? Як гарны сон, харошы, то я ў яго веру...

— Ой, і хітры ты, Іване! А як такі, не вельмі?

— Тады выкінтэ його з галавы. Проста забудзьце... І ўсё будзе ў парадку. — Ён гаварыў то па-руску, то пераходзіў на родную мову, — гэта Кліменак заўважаў і раней: калі яны былі ўдваіх, Іван гаварыў па-ўкраінску, а пры чужых людзях, афіцыйна — па-руску, хоць окаў і ўстаўляў што-небудзь сваё.

— А вось, брат, не вылазіць з галавы. Даўно сніў, мы яшчэ адступалі з-пад Харкава.

І Кліменак расказаў, пакуль яны ішлі, той сон з усімі падрабязнасцямі: як спачатку немец яго лупіў, а ён усё меншаў, як потым сам стаў дубасіць немца, а той рабіўся ўсё меншы і меншы... А потым як нешта пад ім, Кліменкам, правалілася ці разышлося і ён паляцеў уніз і пранізаўся на нешта вострае.

Іван, здалося Кліменку, слухаў няўважліва, увесь час азіраўся — няйначай, баяўся трапіць зноў у якую-небудзь пастку. А калі Кліменак скончыў, доўга соп носам і нешта маўчаў, падазрона маўчаў.

— Дык што ты скажаш на гэты сон, Іване?

— Што сказаты?.. Я б вам сказаў, таварыш палкоўнік, та вы нэ повірытэ...

— Як гэта не паверу? Паверу!

— Я вам скажу, што сон цэй дужэ гарны... Дужэ гарны, — паўтарыў Іван і зрабіў паўзу. — Тількі кінець мэні нэ до сподобы... Вы його выкінтэ з головы, так будэ крашчэ, цэ точно...

І да самага вакзала Іван больш не прамовіў і слова.

Кліменак ажыў душою, калі ўбачыў, што знайшоў штаб. Ён пазнаў яго па мноству машын — штабных і тылавых. Гэта добра, але гэта і кепска — варта толькі заўважыць немцам такое скапленне, як тут жа прыляцяць «юнкерсы». Цяпер у іх крылле падрэзана, але ўсяго можна спадзявацца. Трэба будзе сказаць генералу... І ўсё ж як добра сярод хаосу чужога пакалечанага, зняверанага горада знайсці сваіх! Цяпер яму здалося — а можа так яно і было? — што сёння, як ніколі дагэтуль, ён быў так далёка ад сваіх, так далёка, што мог і зусім не вярнуцца. Магло б так здарыцца: вось быў палкоўнік Кліменак — і няма яго... Магло здарыцца, і яшчэ як! Па крайняй меры, нейкая адтэрміноўка ў яго ўжо ёсць, ужо ёсць нейкая надзея, што ў такое пекла ён трапіць не хутка... Хоць мо і хутка. Тут не ўгадаеш...

Ён адпусціў Івана на кухню, а сам пайшоў да генерала.

# МІКАЛАЙ КРАЙКО, СТАРШЫНЯ



Старшынствуе Мікалай Іванавіч дванаццаць гадоў...

Адкуль парфумеры бяруць назвы для сваіх вырабаў? Ёсць, напрыклад, адэкалон «Вясна», які пахне толькі цырульняй. Вясна ў вёсцы (сапраўдная вясна бывае толькі ў вёсцы, у горадзе—яе сурагат) пахне адталай зямлёй, гаркаватым дымком (недзе паляць лісце) і вішняй.

Для паўнаты вобраза намалюем яшчэ вясковую дарогу і лужыну ля яе, што засталася пасля ўчарашняга дажджу, жыццярадаснага пеўня, які прыбег сюды напіцца і зараз на ўсё горла склікае да смачнай вадзіцы лёгкадумных сяброўак.

Чую, чую папрок. Маўляў, дзе прыкметы сённяшняй вёскі? А пра іх ніжэй.

...Мікалая Іванавіча Крайко, старшыню калгаса імя Калініна ведаю я шмат гадоў. Ён тутэйшы, сухараўскі. Працаваў некалі брыгадзірам, а вось ужо дванаццаць гадоў старшынствуе.

Мікалай Іванавіч—мужчына высокі, мажны, з рэзкімі рысамі абветранага твару і хрыплаватым голасам. Гаворыць, як цвікі ўбівае. Калі сказаў, дык сказаў, паўтараць не будзе. Такі ён са сваімі, такі ён з начальствам. Хаця...

У раёне пры выпадку вам абавязкова раскажуць, як у пару «канюшыннай вайны» прыехала да Крайко абласное начальства праверыць, ці засталіся ў калгасе шматгадовыя травы. Паехала начальства задаволенае—нідзе і следу канюшыны не знайшлося. І толькі суседзі пасля дзівіліся, дзе бяруць калінінцы для сваіх кароў канюшыннае сянцо...

Я неяк спытаў у Мікалая Іванавіча, ці праўда гэта. Ён усміхнуўся:

— Брэшуць...

Апошнім часам бачымся мы з Крайко вельмі рэдка і таму зараз, калі едзем па брыгадах на яго «Волзе», я з асаблівай цікавасцю слухаю скупы расказ старшыні. Лаўлю знаёмыя, крышку іранічныя інтанацыі, маўляў, расказваць-расказваю, але не думайце, што мне вельмі цікава бавіць час з карэспандэнтамі. І яшчэ я ўлоўліваю за абыякавым тонам дрэнна схаваны гонар. Што і казаць, здорава сягнула наперад гаспадарка за апошнія гады. Яна ж і раней па ўраджайнасці не сярод горшых была. Недзе пад васемнаццаць цэнтнераў збожжа з гектара выходзіла на круг. Уга, на раённых нарадах калінінцам за гэта пляскалі ў далоні. А зараз слухаю і думаю, што ўсё на свеце адносна. Летась сабралі ў калгасе з гектара аж па 38,5 цэнтнера збожжа.

— Цуд, ды толькі...—не магу я ўтрымацца.

— А ты ведаеш, колькі мы далі зямлі?—пытаецца старшыня і пачынае загінаць пальцы. — Тон па 60 арганікі ды па тоне мінеральных угнаенняў. Далей. Усё сеем толькі гатунковым насеннем. Ну і натуральна, у тэрмін пасеялі, убралі...

Сёлета калінінцы плануюць выйсці на саракацэнтнерны рубеж па збожжы і на 180 цэнтнераў па бульбе. Мяркуючы па тым, што мы ўбачылі ў калгасе, прымаўка «папера ўсё сцерпіць...» не для дадзенага выпадку.

Вядома, зямля не хлебазавод. Там справа ясная — колькі боханаў у печ паклаў, столькі і выцягнуў. Тут і сонейка можа прыпаліць, і град пабіць, і дажджом вымачыць. Але дзіўная справа —да добрага гаспадара і надвор'е з павагай ставіцца.

Помню, некалі ў раённай газеце кожную вясну мы выдавалі адну і тую ж «шапку»: «На поле гною воз, з поля збожжа воз». Успрымалася гэтая прымаўка літаральна. Здаецца, не так ужо многа гадоў сплыло, а слова «воз» сёння, дальбог, успрымаецца як архаізм.

У адной з брыгад ля гары торфагноевага кампосту ўбачылі мы паўтузіны гноераскідальнікаў на трактарнай цязе, якія загружаў экскаватар.

Тэхніка, тэхніка на кожным кроку. У калгасе зараз семдзесят механізатараў — яны амаль усё і вывозяць, фігуральна кажучы, на сваіх плячах. Гаварыць пра гэта становіцца банальным. А ўсё ж не ўцярплю—падкіну ў гэты вясновы рэпартаж пару лічбаў, якія нядаўна вычытаў у цэнтральным друку. Энергетычныя магутнасці калгасаў і саўгасаў краіны за апошняе дзесяцігоддзе ўзраслі з 155,9 мільёна конскіх сіл да 336,4 мільёна. Што і казаць, важкі ўклад у сельскую гаспадарку зрабіла дзяржава.

На прыкладзе калгаса імя Калініна гэта ўвасоблена ў 28 трактарах, 17 грузавых аўтамашынах, 10 збожжавых камбайнах і іншай тэхніцы, пералік якой заняў бы не адзін радок...

Ну, а ў гэтую пяцігодку тэхніка пойдзе на палі яшчэ больш магутным патокам.

...У трэцяй брыгадзе ў той дзень пачалі садзіць бульбу. На ўскраі поля—невялікія скрыні з прарошчанымі клубнямі.

— Цудоўны гатунак,—гаворыць Мікалай Іванавіч, — ранні і вельмі смачны.

З процілеглага канца чуваць роўнае тахканне трактара. Праз хвіліну—дзве паказваецца «Беларусь» з бульбасаджалкай. Прайшоў загон, развярнуўся, пачынаецца загрузка насення.

Старшыня знаёміць нас з трактарыстам Рыгорам Пагоцкім. Ды ён не проста трактарыст, а звеннявы па механізаваным вырошчванні бульбы. Разам са сваімі памочнікамі Станіславам Куніцкім, Віктарам Міхайлікам і Віктарам Бельскім ён бульбачку пасадзіць, пасля дагледзіць пасевы, пасля ўжо ўсю як ёсць выкапае.



У гэты дзень пачалі садзіць бульбу...

У той дзень пабылі мы і ў калгасным садзе, што раскінуўся больш як на сто гектараў. Сад тут славіцца на ўсю акругу. Штогод калгас збірае мала не чатырыста тон яблык.

Я бачыў гэты сад у пару цвіцення, калі, здавалася, над ім толькі што прайшоў снегапад. Так будзе выглядаць сад тыдні праз тры. А пакуль што тут гаспадарыць тэхніка. Механізатары апрацоўваюць дрэвы хімікатамі.

«Вясновы дзень год корміць»... Гэтую старую прымаўку неяк на дзіва матэрыялізавана ўспрымаеш менавіта зараз у калгасе. Усё тут падначалена адной мэце—адсеяцца хутка, адсеяцца якасна. Кожная мінута на ўліку (каб сэканоміць час механізатарам, ім падвозяць абед проста на поле).

...Вясне не загадаеш — «пачакай». Вось чаму да позніх прыцемкаў гудуць на палях трактары. Грамада ідзе ў наступленне.

**М. ЗАМСКІ.**

Фота Ул. КРУКА.

Мінскі раён.



Калгасны сад славіцца на ўсю акругу...

# КНІЖКІ СЯБРАВАЦЬ ДАПАМАГАЮЦЬ




**З 11 па 23 красавіка ў Беластоку (ПНР) працавала выстаўка беларускай кнігі. Яе агульнымі сіламі наладзілі Беластоцкі «Дом кнігі», Варшаўскае аддзяленне «Міжнароднай кнігі» і Дзяржаўны камітэт па друку Савета Міністраў БССР. Ва ўрачыстым адкрыцці выстаўкі прынялі ўдзел першы сакратар Беластоцкага ваяводскага камітэта ПАРП З. Куроўскі, старшыня прэзідыума ваяводскай Рады народовай З. Спрыха, прадстаўнік аддзела прапаганды, прэсы і выданняў ЦК ПАРП Р. Пацяркоўскі, гандлёвы саветнік пасольства СССР у Польшчы П. Рэзкін і інш. Першых наведвальнікаў пазнаёміў з экспанатамі выстаўкі прадстаўнік Камітэта па друку Савета Міністраў БССР Л. Саслоўскі.**

**Выстаўка беларускай кнігі карысталася вялікай цікавасцю, бо паводле слоў «Газеты Беластоцкай», «беларускія кніжкі выдаюцца асабліва прыгожа і дбайна». Таму наведвальнікі імкнуліся палюбавацца беларускай кнігай. Аўтобусы дастаўлялі экскурсантаў з гарадоў і пасёлкаў, са школ, дзе вывучаецца беларуская мова.**

**Сведчаннем захаплення беларускімі выданнямі засталіся запісы ў «Кнізе водгукаў» выстаўкі. Вось некаторыя з іх: «Выстаўка — каштоўны ўклад ва ўмацаванне сяброўскага і добрасуседскага супрацоўніцтва Польшчы і СССР. Атмасфера дружалюбнага супрацоўніцтва, якая спадарожнічала арганізацыі выстаўкі — добры прыклад дружбы, да якой вядзе кніга, найлепшая сяброўка чалавека. Тадэвуш Гусак».**

**«Выстаўка нам вельмі спадабалася. Беларускія і рускія кнігі карыстаюцца вялікім поспехам сярод польскай моладзі і дарослых. Данута Грыка, Аліна Снарска, Тадэвуш Ваверня».**

**Агульнае пажаданне — каб такія выстаўкі наладжваліся часцей. Бо кніга, як песня — дапамагае дружбе.**

**Віктар РУДЧЫК.**

Беласток.

# ДЛЯ ЮНЫХ І ДАРОСЛЫХ

## КІЕЎСКІ ТЭАТР ЛЯЛЕК У МІНСКУ

Няма больш непасрэднага і шчырага гледача, як юны. Асабліва, калі ён — самы маленькі і прыходзіць у лялечны тэатр. І калі сустракае на сцэне герояў знаёмых казак.

Сёння такія сустрэчы адбываюцца ў дзетвары Мінска з персанажамі Кіеўскага тэатра лялек.

...На сцэне — п'еса С. Абразцова і С. Прэабражэнскага «Вялікі Іван». Вобраз светлых сіл перадаецца ў казцы праз Сокала, цёмных — праз Змяю. Амаль уся зала па ходзе спектакля раз за разам ускоквае з месцаў. Значыць, дзеці разумеюць, адчуваюць, дзе—дабро, а дзе—зло.

Ярка даносяць акцёры задуму спектакля-казкі. Браты Івана (артысты Д. Пронічава, А. Кісіленка, Н. Буракоўскі, Б. Ганчароў) — усе надоўга застаюцца ў памяці гледача. «Лялечны» характар і ў герояў казкі Івана, Сокала, Змяі, хоць глядач бачыць не лялькі, а непасрэдных выканаўцаў гэтых роляў — В. Мізіна, А. Стоцкую, А. Трубяцкую.

Рэжысёрскае (Ю. Сікала) і мастацкае (М. Сапожнікаў) вырашэнне спектакля заслугоўвае самай станоўчай ацэнкі. На маю думку, не зусім удалая толькі лялька-поп. Хацелася б, каб яна бліжэй была да дзіцячага ўяўлення казачнага сквапнага папа, якое жыве ў нашых дзяцей ужо з пушкінскай «Казкі пра папа і работніка яго Балду». Пажадана, каб і лялька-генерал больш адпавядала вобразу з п'есы.

Вядома, што памірыць сабаку з катом — справа складаная. А вось у п'есе эстонскага драматурга Уно Лейніса «Зацятыя ворагі» яны мірацца. Іх дзеці — шчанё Кікі (арт. Л. Угнявенка) і кацяня Мікі (арт. С. Завішы) разам трапляюць у лес. Колькі незнаёмага, нябачанага сустракаецца ім. Быць мужнымі ў лясных прыгодах зноў дапамагае героям казкі зала. Дзеці бурна падказваюць лялькам, якія грыбы добрыя, якія — паганкі, як уцячы ад злога воўка. І шчыра радуюцца, калі вярнуўшыся дамоў, Кікі і Мікі разбураюць плот, што адгароджваў іх домікі, і мірацць сваіх бацькоў.



Артысты Украінскага тэатра лялек перад пачаткам спектакля.

Для дарослых тэатр прывёз «Майскую ноч» М. Крапіўніцкага паводле М. Гогаля. Мы пазнаём у ляльках славутых гогалеўскіх Галаву, Ляўка, Галю, Каленіка, Вінакура, Гарпіну, Пісара і застаёмся ўдзячныя тэатру за непадробны гумар, цудоўную песню, хвацкі танец.

...А ў гэты самы час, як мы гасцінна прымаем у сябе кіеўскіх лялечнікаў, на Украіне працуе Беларускі тэатр лялек.

**Сцяпан МІСКО,**
кандыдат мастацтвазнаўства.



Гэта — іх будні...

Фота В. ВАСІЛЬЕВА.

# ФАНТАНШЧЫКІ

*З ЗАПІСНОЙ КНІЖКІ ТЭЛЕВІЗІЙНАГА ЖУРНАЛІСТА*

Тым часам фантаншчыкі разам са свідравальным майстрам пачалі ўжо абход вышкі, каб праверыць стан тэхнікі бяспекі. Каб увесці чытача ў курс справы, трэба сказаць вось аб чым. Выратавальнікам, або фантаншчыкам, як яны сябе называюць, не плацяць прэмій за ўтаймаванне фантанаў. Што датычыць свідравальшчыкаў, то іх за фантаны «б'юць». І не дзіва — фантаны абыходзяцца дзяржаве ў тысячы рублёў. А фантан, які гарыць, гэта сапраўднае бедства, часам — чалавечыя ахвяры. І галоўная задача выратавальнай службы — змагацца з фантанамі пад зямлёй, не даваць ім магчымасці вырвацца наверх. Для гэтай мэты выкарыстоўваецца гліністы раствор, яго пад вялікім ціскам запампоўваюць у свідравіну.

Я чамусьці ўспомніў, як гады тры таму быў у гэтых месцах разам са сваім прыяцелем, тэлерэжысёрам Толем Сакевічам — мы збіралі матэрыял для дакументальнага фільма аб нафтавіках пад кідкай назвай «Рэпартаж з мяцеліцы». Нам уяўляліся рамантычныя фігуры, якія праяўлялі сябе рэзка, так сказаць, буйным планам. А ўбачылі стомленых людзей, змучаных дарэмнай работай: на ўчастку чатыры свідравіны з пяці аказаліся пустыя, уся надзея заставалася на пятую, на майстра Абілава. Начальнік участка Студзянкін сказаў нам, што калі Абілаў не знойдзе нафты, уся іх работа паляціць к чорту і іх перавядуць у якое-небудзь іншае месца. Калі, канечне, хто-небудзь застанецца ў брыгадах: звычайна пасля такіх няўдач людзі шукаюць іншую работу. А Студзянкін не хацеў ад'язджаць з Беларусі. Ён прыехаў сюды з Узбекістана і гадоў пятнаццаць не бачыў снегу.

А што рабілася потым, калі знайшлі нафту! Гэта быў фільм, які мы з Толем глядзелі, але не маглі зняць. Але мы разумелі, што тут быў той пункт адліку, тая галоўная падзея, якая лейтматывам павінна была прайсці праз наш будучы фільм...

Я запытаўся ў свідравальшчыкаў, ці памятаюць яны Студзянікіна або каго-небудзь з брыгады Абілава. Яны адказалі адмоўна. Майстар таксама не мог дапамагчы: ён зусім нядаўна прыехаў з Татарыі...

□

Раніцай да гасцініцы падкаціў газік з эмблемай выратавальнай службы. Шафёр, мажны мужчына гадоў пад сорак пяць, сказаў без злосці, хутчэй з дабрадушнай іроніяй у голасе: «Дачакаліся свайго: аварыя на свідравіне...» Мы даведаліся, што на эксплуатацыйнай свідравіне здарыўся выкід нафты ў час падземна-рамонтных работ, фантаншчыкі былі там ужо некалькі гадзін. Я пачаў прыспешваць здымачную брыгаду, але шафёр мяне супакоіў: паспеем у самы раз...

Да свідравіны ляжала прамая дарога па шашы. Быў моцны туман, да таго ж уначы выпаў снег — усё злівалася перад вачыма. Дарогу з двух бакоў абступаў лес, угадваліся бліжнія дрэвы, а пасёлкі можна было вызначыць толькі па электрычных агнях. Нягледзячы на ранні час, на шашы было поўна машын, і па іх можна было здагадацца, што здарылася аварыя: тут былі чырвоныя пажарныя «Татры», а таксама грузавікі з нумарамі ўпраўлення «Рэчыцанафта», санітарныя машыны. Пажарнікі, як я заўважыў, не асабліва спяшаліся: адна «Татра», гружаная пяском, нават спынілася, каб падвезці жанчын з бідонамі.

На месцы аварыі было многа тэхнікі: перасоўныя помпавыя і палівачныя агрэгаты, спецыяльныя машыны аварыйнай службы. Было холадна, дзяўчаты-санітаркі (яны тут былі на ўсялякі выпадак) адагравалі замерзлыя рукі. Наводшыбе стаяла начальства: інжынеры з упраўлення, інспектары тэхнадзору. Пажарнікі бралі ваду з меліярацыйнай канавы, пацягнуўшы шлангі да самай вышкі. Пажарнікі выглядалі эфектна — рослыя, падпераразаныя шырокімі рамянямі з кальцавымі трымальнікамі для шлангаў. Кіраваў работамі афіцэр, старшы лейтэнант.

Мы накіраваліся да вышкі і спыніліся метраў за трыццаць — нафта растапіла снег, была такая гразь, што не выцягнуць нагу. Фантаншчыкі, як мне растлумачылі, спрабавалі «пасадзіць планшайбу» і тым самым загерметызаваць вусце свідравіны. У гэтай планшайбе да таго ж было металічнае ўшчыльняльнае кальцо, яго трэба было паставіць у паз і заціснуць шпількамі. Зрабіць гэта было нялёгка ў патоках вады і нафты, усё даводзілася рабіць вобмацкам. Ужо нават былі адцэнтравалі планшайбу, але струмень зрушыў кальцо... Афіцэр-пажарнік паведаміў, што ў іх засталося пены на сорак мінут, але фантаншчыкі якраз справіліся за гэты час. Яны падыходзілі да машыны, аблітыя нафтай з галавы да пят, распраналіся да трусоў, скідалі бруднае адзенне (пасля работы ў загазаваным асяроддзі яно знішчаецца) і пераапраналіся ў сухое.

Я б не сказаў, што яны выглядалі рамантычна, асабліва маленькі Станевіч, а таксама намеснік начальніка Падвальнаў — было відаць, што начная работа стаміла, ён ледзь трымаўся на нагах. Выключэнне складаў хіба што начальнік атрада прыгажун Леў Сурэнавіч Арацюнянц — нават грубае адзенне франтавата сядзела на ім. Ён пераапранаўся, не спяшаючыся, два шафёры рэзалі яму коўдру на анучы. Фантаншчыкі былі задаволены: хутка ўдалося закрыць свідравіну, звычайна на такую работу трацілі двое-трое сутак.

Мне паказалі пажылога чалавека без рукі, які пераапранаўся разам з астатнімі: Жукаў, тэхнік-актывіст, ужо на пенсіі, а заўсёды бывае на аварыях. Гэта магло здацца дзіўным: чалавек прыехаў сюды сярод ночы, няззваны, дабіраючыся на спадарожнай машыне, каб працаваць, рызыкуючы жыццём, атручваць лёгкія газам. Але справа была не ў самаахвяраванні, а ў пачуцці адказнасці: Жукаў разумеў, што яго тут не хапае, што яго вопыт дапаможа людзям папярэдзіць небяспеку...

Было неяк няёмка здымаць фантаншчыкаў для паказу па тэлебачанні, нават падыходзіць з блакнотам. Што датычыць відовішчнасці таго, што адбывалася, дык яе, бадай, было ў абрэз, але аб гэтым зусім не думалася. Між іншым, некалькі ўдарных планаў, як мне здалося, апаратару ўдалося зняць: незнаёмую аварыйную тэхніку і пажарнікаў з брандспойтамі...



Леў Арацюнянц.

Калі селі ў машыну, Арацюнянц прызнаўся, што ён перажыў сёння непрыемныя хвіліны: газ панесла ветрам ад вышкі на вёску, а тут якраз у паласу газу ўязджала нейкая машына — невядома, як яна прарвалася праз ачапленне, і калі б здарыўся выбух, невядома, што магло адбыцца.

Я падумаў, што перажытая небяспека дзейнічае на гэтых звыклых да рызыкі людзей асаблівым чынам. Падаецца ўсё гэта так, што пачынаеш верыць у тое, што нічога не магло адбыцца. І гэта нават не простая сціпласць. Проста людзям зараз менш за ўсё хацелася думаць аб тым, «што было б...» Бо гэтую работу яны выбралі самі, і напярэдадзе яшчэ не адзін такі дзень.

Кантора фантаншчыкаў знаходзіцца каля ўпраўлення свідравальных работ, ля самага лесу. Маленькі дворык, гараж. Хоць у выратавальнікаў не бывае выхадных, але па ўсім адчуваецца, што сёння нядзеля — у двары некалькі чалавек, можна сказаць, марнуюць час: мыюць машыну, разграбаюць лапатамі снег. Вецер разгойдвае ля майстэрні шпакоўні на доўгіх жэрдках. У канторы цішыня, яе парушае толькі стук машынкі. Потым і яна замаўкае. Кінааператар Лёня Броўтман устанаўлівае ў калідоры святло, умацоўвае на штатыве камеру. Робіць гэта нячутна, нібы баючыся парушыць соннае здранцвенне. Чаму? Бо зараз будзе самае галоўнае — трэба зняць людзей «буйным планам», запісаць іх расказ. Расказы пра бушаванне стыхіі на фоне безмяцежнага інтэр'ера — ці не будзе тут супярэчнасці? Напэўна, не. Бо часта менавіта ў такіх абставінах прыходзіць вызваленне ад мітусні і раскрываецца чалавечы характар..

Спачатку работа ў нас не клеілася: адчуўшы на сабе ўвагу камеры, людзі не маглі разгаварыцца. Але ўрэшце «лёд крануўся». «Разрадзіў» абстаноўку жартамі Леў Сурэнавіч Арацюнянц.

Ён вопытны фантаншчык — уваходзіць у неафіцыйную «эліту» выратавальнікаў, якіх у выключных выпадках збіраюць з усяго Саюза ўрадавымі тэлеграмамі. Першы ў яго жыцці фантан быў у Грозным, калі ён працаваў у атрадзе славутага выратавальніка Алейнікава. Гэта быў, паводле слоў Арацюнянца, «фантан з фантанаў» — у суткі выкідаў па 10 тысяч тон нафты... Многія думаюць, што галоўныя страты ад фантанаў у тым, што яны, так сказаць, пускаюць нафту на вецер. Галоўная небяспека ў іншым — у збядненні свідравіны: нафта робіцца інертная, яе потым цяжка «разварушыць»...

Арацюнянцу даводзілася змагацца з фантанамі на поўначы і на поўдні. Былі сярод іх спакойныя і неспакойныя, і такія, якіх утаймоўвалі гадамі.

— Падумайце, а як яшчэ вызначыць, фантаншчык ён ці не фантаншчык, калі няма аварый? — гаварыў Арацюнянц. — Ты навічку колькі хочаш тлумач на пальцах, — без практыкі з яго фантаншчыка не зробіш. Ёсць людзі — цэлы сажань у плячах, а да фантана за вярсту не падыдзе, баіцца. Другі — ліхач, яму на ўсё напляваць: або будзе рухавіком працаваць у загазаванай зоне, як учора той шафёр, або яшчэ горш — закурыць ля фантана...

— Хіба такое бывае?—здзівіўся я.

— Ужо было, на Асташковічах, — адказаў ён. — Свідравальшчык закурыў і... Вырваўся з агню, а потым зноў у агонь пабег...

— Разгубіўся?

— Тут вось якая справа, — уступіў у размову баец атрада Бобла. — Губляеш арыенціроўку. Я калі пайшоў першы раз пад фантан, думаў, што не выйду...

— Я тады двух чалавек пакінуў у рэзерве, — успомніў Арацюнянц. — Разумееце, я іх пакінуў, а яны засталіся... Пасля гэтага я іх адразу звольніў... Ды калі б мяне пакінулі ў рэзерве, я б на каленях прасіў... На фантане адразу чалавек відаць.

— Як Алег Мікалаевіч, — увярнуў Падвальнаў. — Той як трапіў пад фантан, дык адразу засяпаў...

Усе засмяяліся, і Алег Мікалаевіч таксама. Станевіч сказаў, што ён засяпаў зусім не ад лішку пачуццяў, а ад таго, што наглытаўся газу — тады амаль не ўяўляеш, што робіш. Станевіч, як я заўважыў, быў любімцам атрада, і я бачыў па яго твары, што ён зараз таксама разгаворыцца, але тут Лёня Броўтман падаў голас з укрыцця: плёнка скончылася...

Калі выходзілі, Арацюнянц раптам сказаў.

— Вось нядаўна мне прыйшла тэлеграма. Запрашаюць закрыць фантан ва Узбекістане — ужо тры гады як гарыць. Падпалілі, каб не труціў паветра... Я калісьці спаць не мог, баяўся, што не запросяць. Яго ўжо два гады як збіраюцца закрыць...

— Паедзеце?

— Паеду. — Ён засмяяўся. — Ад такой камандзіроўкі не адмовішся.

Мне запомнілася гэта размова, і больш за ўсё слова — «камандзіроўка». Бо пасля камандзіроўкі вяртаюцца дамоў. А дом яго тут, у Рэчыцы.

**Барыс КАЗАНАЎ.**

Рэчыца—Мінск.

---

Нібы на экскурсію, мінчане ў святочныя дні і асабліва напярэдадні Новага года прыязджаюць паглядзець, як упрыгожана тэрыторыя вакол мінскіх заводаў. І ажываюць тады казачныя хацінкі, прыходзяць незабыўныя героі-асілкі, добрыя дзяды Марозы, вясёлыя Снягурачкі, розныя звяры. І тут жа побач — яркая наглядная агітацыя: плакаты, пано, якія расказваюць пра поспехі нашага народа і заводскіх калектываў.

Аказваецца, на заводах сталіцы нямала людзей, улюбёных у мастацтва.

У гэтым мы яшчэ раз пераканаліся на выстаўцы жывапісу, графікі, дэкаратыўна - прыкладнога мастацтва рабочых, служачых, інжынерна-тэхнічных работнікаў аднаго з мінскіх заводаў, якая была нядаўна ў выставачнай зале Саюза мастакоў БССР.

Што характэрна для гэтай экспазіцыі? Перш за ўсё яе жанравая разнастайнасць, свежасць успрыняцця навакольнага свету, імкненне падгледзець найбольш яркае, хвалюючае ў нашым жыцці.

Інжынер Ю. Няжура паказаў на выстаўцы пейзажы Крыма і Каўказа і акварэлі, якія занатоўваюць прыгажосць родных мясцін: «Мая Лагойшчына», «Вёска Станькава. Парк», «Мінск. II ЦЭЦ», «Вёска Станькава. Ля возера» і інш.

Жывапісныя кампазіцыі Г. Бегазы «Мацней за смерць», «Сустрэча» перадаюць гераізм народа ў барацьбе з фашысцкімі акупантамі, яго гасціннасць і добразычлівасць.

Шмат цікавых работ на выстаўцы выкананы каляровымі алоўкамі. Пейзажы «Старыя бярозы», «Вёска Аколіца», «Вецер», «Таполя», «Восень» і іншыя — лірычныя па настроі, шчырыя, хвалюючыя.

Разьбой па дрэве захапляецца слесар М. Урганаў. Цікавыя яго пано «Маё маленства», «Зары насустрач», «Тачанка». Разам з Ю. Няжурам ім зроблена і вялікае пано «Гусляр».

Не пакідае раўнадушным чаканка. «Кіжы», «Трубач», «Жар-птушка» А. Тарасава, «Дзяўчына са збанам» і «Адысей» В. Хахлова сведчаць аб высокім гусце іх стваральнікаў. Не адну сотню кіламетраў прайшоў інжынер М. Ільюкевіч, каб адшукаць карэнні і галінкі, з якіх можна зрабіць такія арыгінальныя сувеніры, як «Змей-Гарыныч», «Удод» і іншыя. Аказваецца, і з адыходаў металу можна стварыць вельмі цікавыя кампазіцыі. Захапляюцца гэтай справай Г. Бегаза і А. Ходзін.

Інжынеры Б. Рожын і С. Скавыш, слесары В. Красоўскі і Е. Піннік зрабілі мадэлі помніка-абеліска на плошчы Перамогі і Кургана славы.

У кнізе водгукаў з'явілася многа запісаў-уражанняў аб выстаўцы.

**Д. КУДЗЕЛЬКА.**

# ВАЧЫМА КЛОУНА

ДОМА я ўключыў рэпарцёрскі магнітафон.

— А ведаеце, як я прыручаю сваіх сабачак? Перш-наперш улюбляю ў сябе: кармлю, паю, купаю, за вухам чухаю, так забаўляюся з імі, што яны думаюць, лепшага за дзядзьку Бору няма на свеце чалавека. А потым, калі яны паверацць, што я добры, пачынаю пакрыху патрабаваць і з іх. Прычым, не агрэсіўна. Па-добраму.

— Так, яны ў вас дзівосныя.

— Та-ак. Асабліва вось яна, Манюня. Маша! Ідзі сюды, пакажы дзядзьку шпагат. Шпагат! Бачыце?

Клоун адпачываў, уладкаваўшыся на канапе ў артыстычным пакоі. Ён адчуваў сябе няважна, скардзіўся на сэрца і вінаваціў за гэта надвор'е. Яшчэ ўчора было сонца, а сёння шэрыя хмары паўзлі над горадам.

Магнітафон круціўся.

Звычайна звонкі гарэзлівы голас клоуна быў глухаваты і сумны.

— Бацьку і маці я не памятаю. У Новасібірску жыў з мачыхай і братам. Яна шыла кепачкі. Аднойчы гаворыць мне: «Бора, табе ўжо дванаццаць год, а мне хутка трыццаць. А з двума дзецьмі мяне ніхто замуж не возьме. Ты паспрабуй ужо сам як-небудзь жыць». Ну, я зрабіў сабе скрынку для чысткі абутку і пайшоў з дому. Паступіў працаваць швейцарам у даходны дом — зараз гэта гасцініца «Цэнтральная» ў Новасібірску. Паслала мяне туды акруговая дзіцячая камісія — была такая арганізацыя. Я прадаваў газеты, чысціў абутак і стаяў у дзвярах швейцарам. А жыў пад лесвіцай. Так я закончыў пяты, шосты, сёмы класы.

— Як для вас пачаўся цырк?

— А вельмі проста. Быў у цырку, калі вучыўся ў чацвёртым класе, мне вельмі спадабалася. У школе на дошцы я напісаў буйна: «Хачу быць артыстам цырка». Пасля сёмага класа ўладкаваўся лазеншчыкам — тады лазня называлася «Фёдаравай». Яна стаяла супраць цырка. А праз месяц мяне ўзялі ў цырк уніфармістам. Я ім спадабаўся, бо на руках ужо «тырчэў» крыху, скакаў. Я ўсім дапамагаў, і мне дазвалялі на конях ездзіць, на турнікі лазіць. Потым, калі стаў дывановым, мне ўсё гэта вельмі спатрэбілася. І ў трыццаць другім годзе, адзінаццатага мая, я пачаў працаваць у алмаацінскім цырку. Працаваў на турніку, але не доўга. Сарваўся метраў з васьмі, «прыпячатаўся». Выбіў плячо, не працаваў два месяцы. Папраўіўся і стаў працаваць дывановым. Так да самай вайны.


Пад купалам цырка грыміць смех...

— Калі вы былі першы раз у Мінску?

— Першы раз у сорак чацвёртым, на другі дзень пасля вызвалення. Давалі прадстаўленне, у афішы напісана было, я дакладна не памятаю, здаецца: «Канцэрт для вызваленага горада Мінска — воінаў, партызанаў і жыхароў».

Мы давалі прадстаўленне на плошчы Свабоды. Горад увесь разбураны, страшна глядзець — адны руіны. Але свята атрымалася вясёлае, люднае...

Дзверы ў гардэроб адчыніліся, і ўбегла Манюня. Чырвоны язык смешна дрыжаў, вочы ззялі. Прыглушаны гул манежа даносіўся і сюды, і нібы з гэтай хвалі захаплення з'явіўся і клоун. Ён быў радасны і ўзбуджаны.

— Золатка ты маё! — пагладзіў ён сабаку. — Дзяўчынка ты мая харошая! Усё чуе, усё разумее, славу любіць лепш за шакалад!

Скінуўшы пінжак і туфлі-даўганосікі і паслабіўшы вузел гальштука, ён зноў прылёг на канапу.

— Працягнем, — сказаў ён, — аб чым мы гаварылі?

— Аб вайне, — сказаў я.

Магнітафон надоўга замаўчаў.

— Аднойчы выступалі ў медсанбаце, у сорак чацвёртым гэта было. Выступаем як заўсёды, цяжкапараненыя ляжаць, лёгкапараненыя і хадзячыя стаяць і сядзяць. Прымаюць нас хораша, а адзін не смяецца. Ляжыць, бледны ўвесь, і не смяецца. Ну, мяне заела. Я на яго працую, толькі на яго, а ён не смяецца. А потым раптам усміхнуўся і нават паспрабаваў апладзіраваць забінтаванымі рукамі. Я расцвіў, задаволены быў, і ў такім вясёлым настроі збіраемся ад'язджаць. Падзывае мяне сястра: «Таварыш, вас наш ранены просіць». І вядзе мяне да таго самага, які не смяяўся. Я прыйшоў, добры дзень кажу, сеў каля яго. «Ведаеце, — гаворыць ён, — мне ўчора ампутавалі нагу... Хацеў застрэліцца». У мяне аж сэрца сціснулася. А ён кажа: «Але паглядзеў я ваш нумар і падумаў, што жыццё не кончылася. У жыцці яшчэ так многа ўсяго... Вялікае вам дзякуй».

З маленькім магнітафонам нешта здарылася. Ён усхліпнуў і ледзь чутна, шэптам, выдыхнуў: «Нервы, нервы... Прабачце...».

Прайшло нямала часу, пакуль ён загаварыў усмешлівым голасам клоуна.

— А аднойчы пасля выступлення, таксама на фронце, прыносяць мне букецік, маленькі такі, кветачак пяць усяго. Ну, я панюхаў, зрабіў «апчхі!» і панёс за кулісы. А ў букеце была запіска, і вы ведаеце, што там было напісана? А-а! Там так было: «Кветкі сабраны на нейтральнай паласе, прывітанне ад разведчыкаў». І чатыры прозвішчы. Зразумела?

Ён засмяяўся. Не так, як на манежы, а неяк цёпла-цёпла, шчасліва.

— А як вы сталі Барысам Вяткіным?

— Гэта здарылася ў Маскве. Пасля вайны працаваў у Ленінградскім цырку, а потым мы паехалі ў Маскву на гастролі. Там я паказаў нумар «Вольны ўрад». Гэта значыць. сядзяць мае манюні, усе ў белых пальчатках, манішках, цыліндрах. Заходжу я, дзядзька Сэм. «Дык вось, паны міністры вольнага незалежнага ўрада, пасяджэнне лічу адкрытым!» Саджуся — і ногі на стол. А падэшвы ў мяне змазаны шакаладным маслам. Манюні кідаюцца і ліжуць мне пяткі. «Ведаю, паны, вы мне адданыя! Атрымаеце за гэта міністэрскі партфель!» Кідаю яго, а ў ім мяса, і яны пачынаюць рваць адна ў адной. Потым я гавару: «Хто за маю прапанову, прашу падняць рукі!». А пад сталом памочнік мой ляжыць і за нітачку тузае, што да сабачых лап прывязана. Як тузане, яны ўсе — раз! — і лапы ўгору цягнуць. А потым я кажу: «Прашу выказаць свае пункты гледжання!» Бяру дудачку і дзьму ў яе. А яны выюць, падпяваюць мне. «Ну што ж, паны, пасяджэнне вольнага незалежнага ўрада лічу закрытым. Вы вольныя!» Бяру іх усіх за павадкі, яны ўпіраюцца, а я іх цягну за кулісы.

Нумар усім спадабаўся. І вось Бушэ — вядомы рэжысёр цырка — выводзіць мяне за руку і ўпершыню аб'яўляе: «Сёння выступаў папулярны артыст Ленінградскага цырка Барыс Вяткін». Было гэта ў пяцідзесятым годзе.

А ў Мінску я выступаю ўжо сёмы раз. Яшчэ ў цырку Шапіто выступаў, ведаеце, дзе ён стаяў? Там, адкуль марскія львы ўцяклі. Чулі? Калі пачалася вайна, яны ўзбунтаваліся і паплылі па рацэ... А гэты цырк, новы, вельмі харошы. Бадай, лепшы ў Саюзе. Не, гэта не камплімент, ён сапраўды харошы, прыстасаваны для нашага жыцця. Тут можна тры атракцыёны размясціць. Тут і душ, і раздзявалкі, і гардэробы. Прычым у апошні час вельмі ўдала падабралася і адміністрацыя. Вось, напрыклад, дырэктар Марусалаў Міхаіл Міхайлавіч. Мы сярод нас называем яго «наш Міх-Міх, друг артыстаў Міх-Міх».

— Вы задаволены сабой?

— Не заўсёды. Жыццё мяне асабліва не песціла, і ўсё ж я шчаслівы. У нас маленькая дружная сям'я — тыповая сям'я цыркачоў. Мама, тата і сын. Сын — Бора, з адзнакай закончыў цыркавое вучылішча, раздаўся ўвышкі і ўшыркі і з яго атрымаўся сілавы жанглёр. Добры ці дрэнны — не мне меркаваць. Але апладысменты ён зрывае не меншыя за бацьку. Зараз вучыцца ў інстытуце тэатральнага мастацтва на тэатразнаўчым факультэце. Так што...

Нягучны голас у дынаміку зноў паклікаў клоуна на манеж. Адтуль даносіўся прыглушаны гул. Праз некаторы час пасля выхаду клоуна і яго сабачкі Манюні радасны смех запоўніў цырк і ўварваўся ў пусты пакойчык, дзе ў гэты час на канапе Барыса Вяткіна-старэйшага адпачываў перад выхадам Барыс Вяткін-малодшы.

**Д. МІХЛЕЕЎ.**

# У ГАДЫ СУРОВЫХ ВЫПРАБАВАННЯЎ

(Заканчэнне. Пачатак на 8-й стар.).

памагаў ваеннай камісіі пісьменнікаў па зборы сродкаў і рэчаў франтавікам, у падпісцы на дзяржаўную пазыку, а таксама ў арганізацыі мітынгаў і выступленняў па радыё.

За час знаходжання ў Печышчах Я. Купала напісаў такія цікавыя артыкулы, як «Кліч да беларускага народа», «Край мой родны! Мой любімы народ», «Беларускаму народу». Акрамя таго, паэт выступіў з прамовай на радыёмітынгу прадстаўнікоў беларускага народа і на сакавіцкай сесіі Акадэміі навук БССР з дакладам «Айчынная вайна і беларуская інтэлігенцыя». У гэты ж час з'явіліся такія палымяныя вершы, як «Хлопчык і лётчык на вайне», «Зноў будзем шчасце мець і волю», «Паўстаў народ», «Дзевяць асінавых колляў», «На Гітлера-звера». Артыкулы, выступленні і вершы-заклікі хвалявалі людзей, кранапі іх сэрцы. Кожнае слова ў іх біла прама ў цэль, паражаючы ворага, наносячы яму смяротныя ўдары.

Асабліва цікавіўся Купала пісьмамі, якія дасылалі пісьменнікі-франтавікі. Ён падтрымліваў сувязь з цэнтральным, франтавым і партызанскім друкам. Ён дасылаў па пошце і з людзьмі, якія ехалі ў прыфрантавую паласу, свае публіцыстычныя артыкулы і вершы.

У газеце «Савецкая Беларусь» Я. Купала ў студзені 1942 года змясціў палымяны артыкул «Кліч да беларускага народа». Артыкул быў напісаны пасля таго, як Чырвоная Армія нанесла сакрушальнае паражэнне гітлераўскім полчышчам пад Масквою і, узяўшы ініцыятыву ў свае рукі, перайшла ў наступленне на другіх франтах. Купала пісаў: «Чырвоная Армія перайшла ў рашучае наступленне і забірае ад фашыстаў горад за горадам, усцілаючы дарогі трупамі салдат, кідаючы на дарогах тысячы машын, танкі, гарматы і іншае ўзбраенне, гітлераўцы адступаюць, а шмат на якіх участках бягуць без аглядкі... Ужо многа савецкай зямлі вызвалена ад гітлераўцаў, і набліжаецца час вызвалення і нашай беларускай зямлі».

18 студзеня 1942 года прадстаўнікі беларускага народа з'ехаліся з усіх канцоў Савецкага Саюза ў Казань, каб прыняць удзел у радыёмітынгу. З вялікім натхненнем рыхтаваўся да мітынгу і Янка Купала, дзе ён выступіў з прамовай «Узнімайся, народзе мой, на вялікую расплату!» Пясняр горача гаварыў аб цяжкіх выпрабаваннях, якія выпалі на долю беларускага народа, аб мужнасці і непахіснасці яго лепшых сыноў і дачок, якія высока ўзнялі сцяг непакорнасці і гатовы за сваю акрываўленую зямлю, за сваю Радзіму змагацца да поўнай перамогі над бесчалавечным гадам, чужынцам.

У сакавіку 1942 года ў горадзе Казані праходзіла сесія Акадэміі навук БССР. З вялікай цікавасцю ўдзельнікі сесіі праслухалі яркі і змястоўны даклад Я. Купалы «Айчынная вайна і беларуская інтэлігенцыя», падмацаваны канкрэтнымі фактамі і лічбамі. Абагульняючы факты ваенных падзей і партызанскага руху ў Беларусі, пісьменнік зусім слушна сцвярджаў, што наша савецкая інтэлігенцыя плячо ў плячо з рабочымі і сялянамі вяла гераічную барацьбу з нямецка-фашысцкімі захопнікамі. «Я, як прадстаўнік беларускай сацыялістычнай інтэлігенцыі, — заявіў Купала, — ганаруся тым, што мае калегі разам з маім народам не сталі на калені перад гітлераўскімі бандытамі, а разам з усімі народамі Савецкага Саюза б'юць паганую фашысцкую немчуру».

Цвёрда і непахісна верыў Купала ў надыходзячую перамогу, у немінучае вызваленне Беларусі ад нямецка-фашысцкай няволі. «Блізак час, — пісаў ён у артыкуле «Беларускаму народу», — калі зноў мы збярэмся ў шчасці і радасці, вялікай сваёй сям'ёй на роднай зямлі, для вялікай працы, аднаўлення і творчасці». Гэтыя ж думы, пачуцці і спадзяванні выказаў пясняр у баявых, публіцыстычна завостраных вершах «Зноў будзем шчасце мець і волю» і «На Гітлера-звера». У першым з іх паэт пісаў:

**Загоім раны, адбудуем**
**Свае сялібы зруйнаваны,**
**Сваю краіну маладую**
**Святлом асвецім нечуваным.**

Да апошніх дзён жыцця, нягледзячы на хваробу, не спыняў Купала сваёй плённай дзейнасці паэта-грамадзяніна, барацьбіта, трыбуна. Ён падпарадкоўваў яе задачам абароны сацыялістычнай Радзімы.

18 чэрвеня 1942 года Купала па выкліку ЦК КПБ прыехаў у Маскву і спыніўся ў гасцініцы «Масква». Ён меў на мэце падлячыцца ў Крамлёўскай бальніцы і напісаць цыкл вершаў аб гераічнай барацьбе беларускіх партызан з нямецка-фашысцкімі захопнікамі. Але не суджана было збыцца яго марам. Жыццё абарвалася нечакана — 28 чэрвеня 1942 года.

З МІНУЛАГА

# УВАГА... ПАЧЫНАЕМ ГУКАВУЮ ПЕРАДАЧУ

**У эпоху радыё і тэлебачання, незвычайнага развіцця службы сувязі, дасягненняў тэхнікі мы прывыклі слухаць у сваім сямейным коле музычныя перадачы, навіны, якія знаёмяць нас з апошнімі падзеямі ва ўсім свеце.**

**Прынята лічыць, што ўсё гэта дасягненне XX стагоддзя, што з усім гэтым мы пазнаёміліся ўжо пасля першай сусветнай вайны.**

**А між тым — «нішто пад месяцам не нова». Інакш кажучы, музычныя перадачы (перадаваліся нават цэлыя оперныя спектаклі) і гукавыя газеты былі вядомы яшчэ ў часы нашых бабуль і дзядуль.**

**У мінулым годзе адзначаліся дзве юбілейныя даты: дзевяностагоддзе з дня першай спробы музычнай перадачы на адлегласці і сямідзесяцігоддзе з дня пачатку сістэматычных перадач «апошніх навін» — своеасаблівай гукавой газеты.**

**Цікавыя рэчы можна прачытаць у часопісах і газетах мінулага стагоддзя. Я дазволіў сабе зрабіць выпіскі некаторых матэрыялаў. Як вядома, радыё было вынайдзена рускім вучоным А. С. Паповым у 1895 годзе. Перадача па радыё гукавых праграм была асвоена ў дваццатых гадах нашага стагоддзя.**

**Аднак ужо ў сямідзесятых гадах мінулага стагоддзя ўзнікла тэлефонная сувязь. Неўзабаве пасля з'яўлення першых тэлефонаў былі зроблены і спробы выкарыстаць іх для... музычных перадач. Першае канкрэтнае ўпамінанне аб такой перадачы адносіцца да 1881 года. На парыжскай выстаўцы «Век электрычнасці» дэманстраваўся тэлефонны прыбор, па якім можна было слухаць, хоць і вельмі неразборліва, музычную перадачу.**

# ЯК ГЭТА РОБІЦЦА

*НА ЗДЫМКАХ ФІЛЬМА «КАПІТАН ЯН»*

**Наш штотыднёвік паведамляў ужо аб пачатку работы над фільмам «Капітан Ян», які здымаецца беларускімі і славацкімі кінематаграфістамі. У красавіку здымкі вяліся на тэрыторыі Чэхаславакіі, што выклікала вялікую цікавасць прэсы. Прапануем нашаму чытачу інтэрв'ю з дырэктарам фільма Вільямам Чанкі, апублікаванае ў славацкай газеце «Праца».**

Дырэктар фільма «Капітан Ян» выглядаў стомлена. Не дзіва — ён толькі што вярнуўся з падарожжа больш чым у тысячу кіламетраў — са сталіцы Беларусі Мінска. Аднак не адмовіўся адказаць на некалькі пытанняў пра фільм, які ўзнікае дзякуючы супрацоўніцтву дзвюх братніх кінастудый — «Беларусьфільм» і «Словенскі фільм».

— Першым чынам — асноўная інфармацыя пра новы фільм?

— Фільм «Капітан Ян» здымаецца паводле сцэнарыя славацкага пісьменніка Мілаша Крно і савецкага сцэнарыста Анатоля Дзяленд зіка. Ён раскажа пра першыя кантакты славацкага афіцэра Яна Налепкі з жыхарамі акупіраванай Беларусі і яго пераход на бок актыўных змагароў супраць фашызму. Творцамі фільма з'яўляюцца рэжысёры Аляксандр Карпаў і наш Марцін Цяпак. Аператары — Віктар Свобада і Сяргей Пятроўскі.

— Дзе вяліся здымкі на Беларусі?

— Першыя здымкі мы зрабілі, так сказаць, для «размінкі касцей» — у нас, у Высокіх Татрах. Там мы хацелі акліматызавацца для рускай зімы. Так мы думалі. Але ў параўнанні з рускай зімой нашы татранскія зімы — чыстае аматарства.

У работнікаў кіно жыццё поўнае прыкрасцей. Гэта вам скажа кожны. Гавораць, калі б мы пачалі вырошчваць карлікаў, у нас бы за адну ноч выраслі з іх волаты. Так і з той рускай зімой. Яна была лютая, аж дых зацінала, а снегу — толькі сям-там. А ў фільме павінна была панаваць зіма сапраўдная, белая. Не заставалася нічога іншага, як звярнуцца да выпрабаваных кінацудаў і вырабіць снег штучны. На шчасце, неўзабаве рускі дзед Мароз узяўся за розум і снегу ў нас стала хоць адбаўляй.

Дзе мы вялі здымкі? Спачатку ў ваколіцах Мінска — партызанскі лагер, спаленую фашыстамі вёску і складаную аперацыю падрыву фашысцкага эшалона. Больш было знята ў Мазыры і Ельску. Ельск быў месцам побыту і дзеянняў капітана Яна Налепкі ў час яго знаходжання на Беларусі.

У Ельску мы былі сведкамі выпадку, які нас расчуліў. Мы рыхтаваліся да здымак, а ў акцёраў была вольная часіна. І яны — Іван Райняк, Мілан Княжка, Юрай Сарваш і іншыя — выбраліся наведаць дамок, у якім некалі жыў Ян Налепка. Яны спаткаліся там з бабуляй, якая вельмі добра памятала славутага жыхара гэтай хацінкі — Героя Савецкага Саюза Яна Налепку. Не абышлося без успамінаў, матчыных абдымкаў і плачу...

— Увогуле, якім бачаць нашага капітана Налепку беларускія людзі?

— Іменна гэта мяне прыемна здзівіла і расчуліла. У краіне, якая дала свету дзесяткі тысяч герояў і прынесла мільёны ахвяр у барацьбе супраць бесчалавечнасці фашызму, наш Ян Налепка і па сённяшні застаецца шанаваным і любімым героем, імя якога на Беларусі вядома гэтак жа, як імёны іншых савецкіх змагароў-герояў. Неаднойчы здаралася, што нас спыняў чалавек, які ведаў Яна Налепку, з якім разам змагаўся,—ён лічыў за гонар абмяняцца поціскам рукі з яго кінадвайнікам. Нягледзячы на ўсе помнікі і ўшанаванні, мы шмат у чым не сплацілі доўг савецкім людзям, якія аддалі жыццё за нашу свабоду і засталіся спаць вечным сном на нашай зямлі.

— Якім было супрацоўніцтва з савецкімі калегамі?

— Вельмі добрым, але былі і праблемы. Бачыце, рабіць фільм— ужо само па сабе праблема. Нашы савецкія калегі адзначаюцца высокім прафесіянальным узроўнем, працавітасцю, сяброўскімі адносінамі. Ёсць яшчэ тое, чаму мы можам толькі зайздросціць, — выдатна абсталяваная сучасная студыя з усім тым, чаго патрабуе цяпер кінатворчасць.

— І ў заключэнне — калі мы ўбачым фільм «Капітан Ян»?

— Фільм будзе каляровы і шырокаэкранны. Мяркуецца, што першая копія гатова будзе ў канцы года. Мы хацелі б закончыць фільм як мага хутчэй, каб ён трапіў на экраны кінатэатраў у час месяца дружбы — як у СССР, так і ў нас. Калі ўсё пойдзе так, як цяпер, гэта павінна ў нас атрымацца.

---

**Годам пазней, пасля закрыцця выстаўкі, у Парыжы ўзнікла «таварыства аматараў пяючага тэлефона». Некалькі год цягнуліся няўдалыя вопыты з перадачамі «гукавых праграм» па тэлефоне. Аднак ужо ў лістападзе 1884 года ў вялікай парыжскай гасцініцы «Асторыя» быў адкрыты першы «гукавы салон».**

Цікава, што стваральнікамі вельмі складанай апаратуры былі выхадзец з Расіі — паляк па бацьку і беларус па маці, інжынер Марыновіч і яго супрацоўнік венгр Шаўрэд. Пра Марыновіча ў 1885 годзе пісаў часопіс «Всячина»: «Стваральнік гэтага мудрагелістага прыбора — наш суайчыннік. Яго бацькі доўгі час жылі ў Мінску. бацька быў доктарам, а маці настаўніцай. Вучыўся Марыновіч механіцы ў Парыжы і там жа ажаніўся з француженкай».

Часопіс «Всячина» даў апісанне «гукавых салонаў», якія былі абсталяваны Марыновічам і Шаўрадам у некалькіх парыжскіх гасцініцах. Гукавыя інсталяцыі былі вельмі складанымі прыборамі і дорага каштавалі. Іх збудаванне фінансавалася памянёным «таварыствам аматараў спяваючага тэлефона». «Гукавы салон» быў залай, абвешанай цяжкімі заслонамі, падлога была пакрыта мяккімі пушыстымі дыванамі. Зала была застаўлена невысокімі столікамі, на якіх стаялі «гукавыя апараты». Часопіс «Всячина» называў іх «прыёмнікамі». «Прыёмнікі» былі аўтаматызаваныя. У апарат апускалася манета ў 50 сантымаў. За гэту цану можна было слухаць гукавую перадачу на працягу пяці мінут.

Спецыяльная станцыя злучала слухачоў з пажаданым тэатрам. Станцыя гукавога вяшчання змяшчалася ў склепах старадаўняга будынка па вуліцы Луі дэ Гранд. У спецыяльным памяшканні канчаліся правады, злучаныя з «прыёмнікамі». Кожны «прыёмнік» абслугоўваўся індывідуальным провадам. Перадачы вяліся з оперы, філармоніі і нават з кафешантанаў. Аўтамат уключалі такім жа чынам, як цяпер уключаецца на патрэбную хвалю радыёпрыёмнік.

Оперныя спектаклі перадаваліся пры дапамозе шматлікіх мікрафонаў, устаноўленых на сцэне. Трансмісія праводзілася пры дапамозе прамых правадоў, што зыходзіліся ў студыі, якая называлася «станцыяй гукавога вяшчання».

У студыі змяшчалася вялізных памераў кола з утычкамі, пры дапамозе якіх слухачоў злучалі з тэатрам. Сувязь ажыццяўлялася па тых жа прынцыпах, што і звычайны тэлефон.

Неўзабаве таварыства было перададзена ў рукі фінансістаў. Было створана прадпрыемства «Тэатрафон», у якім Марыновіч і Шаўрад ужо не працавалі. Марыновіч і Шаўрад з Парыжа пераехалі ў Будапешт. Тут іх вынаходніцтвам зацікавіўся журналіст Пускас. Іменна яму прыйшло ў галаву выкарыстаць вынаходніцтва Марыновіча і Шаўрада для... гукавой газеты.

Першая ў свеце «вяшчальная газета» пачала сваю работу ў маі 1901 года. Папулярны рускі часопіс «Природа і людзі» адгукнуўся на гэту падзею артыкулам, у якім расказвалася аб рабоце рэдакцыі «Тэлефон-Гірмонда», як называлася газета.

«Пры ўваходзе ў рэдакцыю спачатку не відаць нічога, што выдзяляла б гэта памяшканне з раду звычайных рэдакцый. Супрацоўнікі заняты сваёй нармальнай журналісцкай работай. Пішуць фельетоны, перадавыя артыкулы, хронікі, навуковыя заметкі. Тут жа сартуюцца біржавыя даведкі і палітычныя навіны. Словам, газетная работа ідзе сваім звычайным парадкам. Але ўжо суседняе памяшканне цалкам змяняе малюнак. Тут шэсць артыстаў з моцнымі галасамі перадаюць канцэртныя або оперныя п'есы. Іншыя служачыя чытаюць драматычныя творы. Такім чынам «Гірмонда» задавальняе самыя разнастайныя патрабаванні сваіх падпісчыкаў. Чытанне рукапісаў адбываецца перад двума вялікімі апаратамі, пастаўленымі адзін супраць другога, і адрозніваюцца яны ад звычайных толькі ў дэталях. Перадача газеты падпісчыкам праходзіць рэгулярна з 8 гадзін раніцы да 11 гадзін вечара. Каля другой гадзіны дня перадаюцца ўсе ранішнія навіны. Нарэшце, калі здарыцца якая-небудзь асаблівая падзея, у кватэры абанента чуецца сігнал і яму зараз жа паведамляюць аб тым, што адбылося. Падпісная цана на газету на рускія грошы роўная каля аднаго рубля дзесяці капеек у месяц. Выдаткі па ўстаноўцы апарата ў падпісчыка на кватэры прымаліся на кошт газеты. Не дзіва таму, што арыгінальная газета набыла за кароткі час да дваццаці тысяч падпісчыкаў».

«Гірмонда» выходзіла ў Будапешце некалькі год. У 1905 годзе Марыновіч вярнуўся ў Расію. Марыў аб стварэнні гукавой газеты ў Пецярбурзе. Аднак у гэты час пад магутнымі ўдарамі першай рэвалюцыі пахіснуліся асновы царскага ладу. Царскаму міністэрству было не да гукавой газеты. Пра далейшы лёс Марыновіча нічога не вядома. Неўзабаве пра Марыновіча забыліся. Буйное развіццё радыётэхнікі выкрасліла памяць аб цікавым вынаходніцтве.

**Панцеляймон ЮР'ЕЎ.**

---

## РЭСПУБЛІКАНСКІ ДОМ НАРОДНАЙ ТВОРЧАСЦІ БЕЛАРУСІ, ІНСТЫТУТ МАСТАЦТВАЗНАЎСТВА, ЭТНАГРАФІІ І ФАЛЬКЛОРУ АН БССР ПРАВОДЗЯЦЬ КОНКУРС ПА ЗБОРУ БЕЛАРУСКАЙ НАРОДНАЙ ТВОРЧАСЦІ

*Конкурс праводзіцца з лютага па снежань 1972 года.*

**Мэта конкурсу: выяўленне і збіранне лепшых узораў беларускай народнай творчасці ўсіх жанраў — песень, казак, легенд, паданняў частушак, прымавак, анекдотаў, загадак, танцаў, гульняў; апісанняў народных абрадаў; твораў народна-прыкладнога мастацтва і промыслаў.**

**У конкурсе могуць прыняць удзел шырокія колы аматараў народнай творчасці: рабочыя, калгаснікі, настаўнікі, школьнікі, урачы, работнікі культурна-асветных устаноў, музеяў, ваеннаслужачыя і інш.**

**Для падвядзення вынікаў конкурсу створана журы.**

**У час конкурсу збіраюцца творы сучаснага і традыцыйнага беларускага фальклору (у тым ліку музычнага і харэаграфічнага), народна-прыкладнога мастацтва (разьба па дрэве, ткацтва, вышыўка, вырабы — як сучасныя, так і старадаўнія).**

**Запісы вусна-паэтычных твораў павінны адлюстроўваць марфалагічныя і фанетычныя асаблівасці, а таксама спецыфічную мясцовую лексіку. Кожны твор павінен быць пашпартызаваны, гэта значыць трэба указаць:**

*1. Звесткі аб асобе, якая запісала твор: прозвішча, імя, імя па бацьку, узрост, адукацыя, прафесія, адрас.*

*2. Дату запісу.*

*3. Месца запісу твора: вобласць, раён, вёска, калгас, горад, завод, навучальная ўстанова.*

*4. Звесткі аб асобе, ад якой запісаны твор: прозвішча, імя, імя па бацьку, узрост, нацыянальнасць, прафесія, адукацыя, адрас.*

*5. Ад каго выканаўца пераняў твор, распаўсюджанасць твора, яго сувязь з абрадамі.*

З музычных твораў больш высока будуць ацэньвацца тыя, якія будуць мець, апрача слоўных тэкстаў або апісанняў, і нотныя запісы (магчымы магнітафонны запіс).

Лепшыя збіральнікі народнай творчасці будуць узнагароджаны дыпломамі і граматамі, а лепшыя творы, адабраныя журы, будуць набыты за адпаведную плату Рэспубліканскім домам народнай творчасці.

Вусна-паэтычныя, музычныя і харэаграфічныя народныя творы мяркуецца выдаць у зборніках.

Творы і рэчы на конкурс трэба прадставіць не пазней 15 снежня 1972 г. па адрасе:

*Мінск-29,*
*пл. Парыжскай камуны, д. 23.*
*Рэспубліканскі дом народнай творчасці*
*«На конкурс»*

---

**Дзяржаўная кансерваторыя імя А. В. Луначарскага аб'яўляе прыём студэнтаў на 1-ы курс навучання з адрывам і без адрыву ад вытворчасці (завочнае навучанне) у 1972 годзе.**

Прымаюцца на факультэты: фартэпіянны, выканаўчы — па спецыяльнасцях: скрыпка, альт, віяланчэль, кантрабас, флейта, габой, кларнет, фагот, валторна, труба, трамбон, туба, ударныя інструменты, цымбалы, баян, акардэон (толькі на дзённае навучанне), домра, балалайка, спяванне (толькі на дзённае навучанне), харавое дырыжыраванне; кампазіцыі і музыказнаўства — па спецыяльнасцях: кампазіцыя (толькі на дзённае навучанне) і музыказнаўства.

У кансерваторыю прымаюцца асобы абодвух полаў, якія маюць закончаную сярэднюю адукацыю і праявілі творчыя дараванні, актыўна ўдзельнічаюць у мастацкай самадзейнасці і атрымалі рэкамендацыі з месца працы або вучобы на навучанне з адрывам ад вытворчасці ва ўзросце да 35 гадоў (па спецыяльнасці спявання — да 30 гадоў) і на навучанне без адрыву ад вытворчасці без абмежавання ўзросту, хто паспяхова здасць уступныя экзамены па наступных прадметах:

спецыяльнасці,
рускай мове і літаратуры (пісьмова і вусна),
гісторыі СССР.
Экзамен па спецыяльнасці ўключае раздзелы:
выкананне праграмы (для выканаўцаў),
выкананне ўласных твораў (для кампазітараў),
музычная літаратура (для кампазітараў і музыказнаўцаў),
пісьмовая работа (для музыказнаўцаў),
сальфеджыо (пісьмова і вусна),
гармонія (пісьмова і вусна, апрача вакалістаў),
элементарная тэорыя музыкі (пісьмова і вусна, для вакалістаў),
фартэпіяна (для дырыжораў хору, кампазітараў і музыказнаўцаў),
калоквіум.

Заявы аб прыёме падаюцца на імя дырэктара па адзінай форме.

Да заявы прыкладаюцца: дакумент аб сярэдняй адукацыі (у арыгінале), характарыстыка для паступлення ў вну, медыцынская даведка (форма № 286), 4 фотакарткі (здымкі без галаўнога ўбору, памерам 3×4 см).

Асобы, якія маюць стаж практычнай работы не менш двух гадоў і паступаюць на навучанне без адрыву ад вытворчасці, павінны прадставіць завераную кіраўніком установы выпіску з працоўнай кніжкі.

Пашпарт, ваенны білет (ваеннаабавязаныя запасу) або прыпіснное пасведчанне (асобы прызыўнога ўзросту) прад'яўляюць асабіста.

Заявы прымаюцца з 1 чэрвеня па 10 ліпеня па адрасе: 220030, г. Мінск, вул. Інтэрнацыянальная, 30.

Уступныя экзамены для паступаючых на дзённае і завочнае навучанне з 11 па 25 ліпеня.

---

## ТЫДЗЕНЬ КНІГІ ЧССР

Учора ў сталічнай кнігарні «Дружба» адкрыўся Тыдзень чэхаславацкай кнігі, які ў гэтым годзе праходзіць у рамках святкавання Міжнароднага года кнігі і пад яго дэвізамі. Пакупнікам прапануецца шырокі выбар грамадска-палітычнай, мастацкай, навуковай, спартыўна-турысцкай літаратуры. Чытач, які цікавіцца жыццём братняй Чэхаславакіі, зверне ўвагу на зборнікі артыкулаў Г. Гусака, В. Біляка, кнігу Я. Мацейкі пра К. Готвальда, новае падарункавае выданне бессмяротнага «Рэпартажа» Ю. Фучыка, творы К. Я. Эрбена, А. Запатоцкага, К. Чапека, І. Ольбрахта, Г. Малржавай, К. Ф. Седлачака, Д. Шайнера, А. Беднара, М. Фігулі і многіх іншых пісьменнікаў. Шматлікія альбомы расказваюць пра выдатныя мясціны рэспублікі, пра яе гарады, рэкі.

# ІДУЦЬ ЭШАЛОНЫ

ІВАН Рыгоравіч Крупняк дасягнуў той рысы, за якой, натуральна, узнікае пытанне: «Ну, а чым жа я жыў?» У такім узросце пішуцца мемуары і дысертацыі, лёгка даюцца артыкулы на маральна-этычныя тэмы, прыводзіцца ў парадак спадчына эпісталярнага жанру; як пра нешта рэальнае, вядзецца гамонка пра ўласную кніжку і гэтак далей.

І хоць Крупняк не стаў членам Саюза пісьменнікаў, ён за сваё немалое жыццё надрукаваў з дзесятак вершаў, нешта накшталт дакументальнай аповесці пад назвай «Ідуць эшалоны», незлічоную колькасць нарысаў і замалёвак. Яны друкаваліся ў шматлікіх выданнях, большасць з якіх даўно канула ў Лету і не ўпамінаецца нават у лекцыях выкладчыкаў факультэта журналістыкі.

— Мабыць, і мне варта выдацца, — падумаў аднойчы Крупняк. — Чым я горшы за другіх...

Іван Рыгоравіч выцягнуў даволі ёмістую скрынку, куды на працягу амаль трыццаці год складваў выразкі са сваімі матэрыяламі, і пачаў перабіраць іх. Патыхнула спецыфічным пахам сатлелай паперы. Крупняк чытаў: «Барвовы дыск сонца выкаціўся з-за зубчастай сцяны лесу. Пускаючы густыя грывы дыму, па чыгуначных рэйках грымеў эшалон...».

— А здорава! Цяпер так не напісаў бы, — з задавальненнем падумаў Крупняк. — Абавязкова ўключу. Праўда, сёе-тое давядзецца паднавіць...

Перагарнуў яшчэ некалькі лісткоў. Вось рубрыка «нарыс». «Ружовы дыск сонца садзіўся за зубчастую сцяну лесу. Грукаючы на стыках, ішоў эшалон. Мабыць, ён вёз малако, якое надаіла...» — з замілаваннем чытаў Іван Рыгоравіч.

Наступны нарыс пачынаўся: «Зубчастая сцяна бору нараджала ружовае сонца. Чуліся гудкі эшалона і спеў салаўёў. Перадавая свінарка Ганна Петрыкевіч ішла па роснай сцяжынцы на ферму, якая за пяць год стала для яе другім домам. Мабыць, гэты эшалон вязе тых свіней...».

Крупняк гартаў выразку за выразкай. І ў кожнай з іх «грымелі», «гудзелі», «стагналі», «парушалі цішыню ночы», «стукалі», «набліжаліся», «аддаляліся» эшалоны з бульбай, жытам, кукурузай, малаком, мясам, цукровымі буракамі, капустай, часнаком, лёнам, камбікормам, цэглай, сельскагаспадарчай прадукцыяй, проста прадукцыяй і г. д. У залежнасці ад прафесіі героя нарыса Іван Рыгоравіч намагаўся прыгадаць тых людзей, пра якіх калісь пісаў. Ды ніводнага жывога твару не ўсплывала ў памяці. Прыгадвалася, колькі ганарару плацілі за той ці іншы матэрыял, хто плаціў па-боску, хто проста здзекваўся...

— Э-э-э, — расчулена падумаў Крупняк, — у той час мяне — не без зайздрасці, вядома, — называлі разбойнікам пяра.

Іван Рыгоравіч быў сапраўдным майстрам нарыса. У яго свая творчая лабараторыя, свой метад. Дастаткова было па тэлефоне даведацца пра прозвішча перадавіка, яго вытворчыя паказчыкі, узрост, яго вёску, членаў сям'і, пра некалькіх калег па рабоце для фону — і праз гадзіну-другую падвальчык на радкоў дзвесце-трыста клаўся на стол рэдактара. Болдзінская восень не пакідала Крупняка на працягу амаль пятнаццаці год. Пісалася многа і надзвычай лёгка. Словам, столькі, што не хапала шасці актыўных і дзесяці пасіўных псеўданімаў.

К гадам сарака пяці пачалася змрочная паласа. Яна не пакідае Крупняка і зараз. Яго нарысы бязлітасна бракуюцца, у лепшым выпадку робяць з іх 10—15-радковыя нататкі. Праўда, ні ў аднаго рэдактара і на сённяшні дзень не падымаецца рука для замаху на «эшалоны». І яны працягваюць «гудзець», «шумець» на ўсе лады ў крупняковых нататках...

...У птушыным тлуме займалася бадзёрая, юная раніца. Іван Рыгоравіч дачытаў сваю інфармацыйную заметку ва ўчарашняй газеце. «Спаганілі, — з гарыччу падумаў ён, — такі быў нарыс!».

А над суседнім домам нараджаўся ружовы дыск сонца. Дзесьці за два кварталы трубілі гудкі, з праразлівым ляскатам грымелі паражнякі...

Валянцін БЛАКІТ

# МІМАХОДЗЬ

На справаздачнай базе раздзьмулі штаты — яблыку недзе ўпасці.

Бязбгатнае навучанне.

Д. КУМСКІ.

Праца ператварыла малпу ў чалавека. Шчасце гультаёў, што адваротны працэс немагчымы.

Перш чым кінуць слова на вецер, пераканайся, што ён дзьме ў патрэбны бок.

А. ПРАНІШНІКАЎ.

Парадоксы шлюбу: мядовы месяц пачынаецца «з горка», а на дэсерт — пуд солі.

Каб стаць на галаву вышэй, патрэбна як мінімум галава.

Д. ПАЛОНСКІ.

Меліяратары з вялікай ахвотай асушалі... кілішкі.

Флюгер, які выйшаў на пенсію, напісаў у мемуарах: «Я кіраваў напрамкам ветру».

В. ШАЎЧЭНКА.

Апошняе слова тэхнікі — звычайны штамп.

Шыльда: «Аўгіевы стайні не працуюць — санітарны дзень».

М. ШЛЯФЕР.

# ЛЁГКІМ ШТРЫХАМ

Сяброўскія шаржы З. ПАЎЛОЎСКАГА.



Міхась ЛЫНЬКОЎ.



Аркадзь КУЛЯШОЎ.



Сяргей ДЗЯРГАЙ.



Анатоль АСТРЭЙКА.

# «БЯРУ СЛОВА — ДАЮ СЛОВА...»

Добра быць газетчыкам... Куды хочаш едзеш, з кім хочаш — гаворыш. І з тымі, у каго душа нараспхрыст, і з тымі, якіх п'яніцамі ды абібокамі называюць... А ўжо ж калі ты з блакнотам у руках спынішся ў вёсцы, то, як кажуць, не губляйся, не будзь дзівaком-чалавекам: бяры слова — давай слова...

Вось і П. Місько завітаў неяк у «Зялёную даліну». Там — моцны калгас, там — цікавыя людзі. Чаго яны толькі не нагаварылі госцю па шчырасці! Так бы і слухаў іх зранку да вечара. Але ж усіх не перaслухаеш, усе прамовы не занатуеш у блакноце. І таму, разважыўшы, «даў слова» П. Місько: трактарыстцы Мар'яне Ячнік, быламу брыгадзіру Мірону Яруце, паплаўнічаму Ахрэму Дабрыяну, горабудаўніку Юзіку Ваўнянку, калгасніцы Палашцы Ціхун, выпускніку дзесяцігодкі Колю Верхаводку, шафёру Тарасу Сербічу, эканамісту Люцыі Малах, нарэшце, будучай гараджанцы Алене Дзядзюлі і былой гараджанцы Тэклі Пужаль... І хоць можа падацца, што не заўсёды гэтыя людзі смешна расказваюць (вядома ж, не гумарысты-сатырыкі яны!), але ж на словы не скупіліся...

І міжволі зайздросціш П. Місько, які склаў з гэтых расказаў кніжачку апавяданняў і гумарэсак пад назвай «Дзівак-чалавек», што выйшла ў «Бібліятэцы «Вожыка». І міжволі думаеш: гэта ж ён у адной толькі вёсцы пабываў і кніжку напісаў, а калі цэлую вобласць аб'ездзіць? Во будзе!

# З французскага гумару

Два паляўнічыя сустрэліся ў Афрыцы.

— Вы даўно палюеце на сланоў?

— Не... я прыехаў лавіць матылькоў, але ў дарозе разбіў свае акуляры.

□

— Мая дарагая, што вы думаеце пра Віктора Гюго?

— Як вы гаворыце: Віктор Гю...

— О, я бачу, вы вельмі добра ведаеце Віктора Гюго, таго, які стварыў «Сабор Парыжскай Багамацеры».

— А! Сабор Парыжскай Багамацеры! Так, так.., Гэта цудоўны архітэктар.

□

— Вы абвінавачваецеся ў тым, што некалькі разоў паранілі пацярпелага. Навошта вы зрабілі гэта? — спытаў суддзя.

— Ён абазваў мяне гіпапатамам.

— Калі гэта здарылася?

— Каля года назад.

— Як каля года? Ваша справа была пачата ўсяго два месяцы назад.

— Так, пан суддзя, але два месяцы назад я ўпершыню ўбачыў гіпапатама.

□

— Пан дырэктар, вось ужо дваццаць пяць гадоў, як я працую ў вас і ніколі не прасіў павышэння.

— Толькі таму вы так доўга заставаліся на сваім месцы.

Пераклаў Віталь АГРЫЗКА.

По тэхнічных умовах унутраныя восем старонак газеты друкуюцца і выпускаюцца асобна ад васьмі знешніх. Атрымаўшы або набыўшы газету, укладзіце ўнутраныя аркушы ў знешнія.

«Литература и искусство» — орган Министерства культуры и правления Союза писателей БССР, Минск.

«ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА»

Выходзіць па пятніцах.

Ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга друкарня выдавецтва ЦК КП Беларусі.


Індэкс 63856 АТ 01713

Адрас рэдакцыі: Мінск, вул. Захарава, 19.

Тэлефоны: прыёмнай рэдакцыі — 33-24-61, намесніка галоўнага рэдактара — 33-25-25, адказнага сакратара — 33-44-04, аддзела літаратуры — 33-22-04, аддзела тэатра, кіно і музыкі — 33-24-62, аддзела выяўленчага мастацтва, архітэктуры і вытворчай эстэтыкі — 33-24-62, аддзела публіцыстыкі — 33-24-62, аддзела культуры — 33-21-53, выдавецтва — 32-22-19, бухгалтэрыі — 32-15-87.

Рукапісаў рэдакцыя не вяртае.